Published by BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE ¢ 50

Post Address: BIELARUS P. O. Box 109 Jamaica, N. Y. 11431

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVIII. № 128 | Сьнежань 1967. | NEW YORK — TORONTO | December 1967. | Vol. XVIII. № 128

## НА 50-ЫЯ ЎГОДКІ УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ

У нацыянальным адраджэньні Беларусі Ўсебеларускі Зьезд або Кангрэс, што адбыўся ў сьнежні 1917 г. — падзея, бясспрэчна, вехавая. Яна стаіць у цэнтры гістарычных 1917 — 1920 гадоў — гадоў Беларускай Нацыянальнай Рэвалюцыі.

Шырокаму грамадзтву пра Ўсебеларускі Зьезд ведама дасюль больш з традыцыі незалежніцкіх юбілеяў або з антынацыяналістычных выпадаў, чымся з дакумэнтаў і аб'ектыўнага вывучэньня.

Савецкая гістарыяграфія пасьлясталінскага часу выказваецца пра Зьезд 1917 году неахвоча й галаслоўна. Гэтак, прыкладам, у другім томе „Гісторыі БССР" (Інстытут гісторыі АН БССР, Менск, 1958, бб. 71—73) Усебеларускаму Зьезду прысьвечана ўсяго паўтары балонкі прапаганды. На адно з асноўных пытаньняў, прыкладам, — колькі было ўдзельнікаў на Ўсебеларускім Зьезьдзе? — „Гісторыя БССР" вам не адкажа. На іншае ня менш важнае пытаньне — хто склікаў Зьезд і хто быў на ім? — ад „Гісторыі БССР" вы пачуеце звужаны, тэндэнцыйны адказ: „нацыяналістыя й правыя эсэры". Апошнім часам, праўда, пытаньне Ўсебеларускага Зьезду 1917 г. савецкія гісторыкі пачынаюць закранаць больш канкрэтна. У 1964 г. у ліпенскім (7-м) нумары часапісу „Вопросы истории" (бб. 33—46) беларускі савецкі гісторык В. Круталевіч апублікаваў дакумэнтаваны артыкул „Да гісторыі ўтварэньня БССР". Тут ужо пытаньні, на якія не адказвала або якія выкрыўляла „Гісторыя БССР" 1958 году, закранутыя грунтаўней, хоць і не без „партыйнасьці" ў насьвятленьні. Круталевіч прызнае ўжо — і ці ня першы гэта выпадак у савецкай гістарыяграфіі — што „ў працы Зьезду ўзяло ўдзел 1.915 чалавек, зь іх 1.175 з пастанаўляючым голасам". І былі гэта не адно „беларускія нацыяналістыя й правыя эсэры" з балонак „Гісторыі БССР", а галоўным чынам „прадстаўнікі валасных, паветавых і губэрнскіх земстваў, гарадзкіх самаўрадаў, паветавых і губэрнскіх зямельных камітэтаў, настаўніцкіх арганізацыяў, саюзаў земскіх і паштова-тэлеграфных службоўцаў, рознага роду нацыяналістычных арганізацыяў. Ня былі забытыя навет дарожныя й уцякацкія камітэты".

Той-жа Вадзім Круталевіч, што спэцыялізуецца на пэрыядзе 1917-1921 гадоў, апублікаваў у другім сёлетнім нумары (за люты) часапісу „Полымя" (бб. 173 — 200) артыкул п. заг. „Без народнай апоры". Мотта да свайго артыкулу аўтар узяў з „канстытуцыі" БССР, у якой кажацца, што Беларуская ССР паўстала ў выніку „вызваленьня беларускага народу ад нацыянальнага прыгнечаньня царызму" й „разгрому беларускай нацыяналістычнай контррэвалюцыі".

На пачатку свайго артыкулу аўтар заяўляе, што „вывучэньне сілаў, якія дзейнічалі ў стане ворагаў сацыялістычнага ладу, дасьць нам магчымасьць паўней убачыць асаблівасьці Кастрычніцкай рэвалюцыі", ды што „сярод ворагаў новага ладу, якія ўпарта працідзейнічалі ўстанаўленьню і ўмацаваньню савецкае ўлады ў Беларусі, былі й беларускія нацыяналістыя".

Апрача нясьведамага блытаньня ды сьведамага выкрыўляньня й затушоўваньня гістарычных фактаў, Круталевіч зрабіў з галоўных пытаньняў беларускае гісторыі — у справе насьвятленьня палажэньня Беларусі пад царамі — паварот на 180 градусаў. Беларусь, як выяўляецца, зусім ня была калёніяй царскае Расеі:

„Толькі ў вапошнія гады — кажа ён, — адмовіліся ад моцна ўкаранёнага за дзесяцігодзьдзі пагляду на Беларусь як на калёнію або на паўкалёнію Расеі. Гэты погляд насаджаўся нацыяналістычнай літаратурай... Шырока вядома, што Беларусь вяла гандаль сваімі таварамі за мяжой не праз якіх-небудзь пасрэднікаў, а сама..." (б. 175).

Дарэчы, вось што пішацца не ў нацыяналістычнай працы, а ў вынсавах кнігі „Экономика Белоруссии в эпоху империализма", выдадзенаи Інстытутам Эканомікі Акадэміі Навукаў БССР у Менску ў 1963 годзе:

„У ўмовах параўнальна адсталае эканомікі ў Беларусі панавалі галоўным чынам агульнарасейскія манаполіі (б. 404). Беларусь была рынкам збыту буйных расейскіх манапалістычных аб'еднаньняў, што спуталі яе сеткай філіяў і прадстаўніцтваў (б. 406). Асноўныя банкаўскія ўстановы ў Беларусі былі філіяламі расейскіх банкаў (б. 407). Ступень эксплятацыі работніцкае клясы Беларусі была асабліва высокай у сувязі з тым, што яна пакутавала ад патройнага ўціску — мясцовае, расейскае й замежнае буржуазіі... Дзеля гэтага жыцьцёвы ўзровень работніцкае клясы, а таксама ўсіх працоўных у Беларусі быў ніжэйшы, чымся ў сярэднім у Расеі (б. 409). Беларусь была шырокім рынкам таннае работніцкае сілы (б. 411)".

З мэтай дамагчыся роўных правоў ды нацыянальнае свабоды й быў скліканы ў Менску Ўсебеларускі Зьезд. Але балышавіцкая дыктатура спалохалася голасу гэтага дэмакратычнага зьезду і ён быў разагнаны сілаю зброі. За што? Дзеля якіх прычынаў?

Пра прычыны разгону Ўсебеларускага Кангрэсу вышэй згаданы Вадзім Круталевіч на аднэй і тэй самай балонцы ўхітрыўся напісаць два супрацьлежныя цьверджаньні:

1) „У літаратуры часта ня зусім выразна растлумачваюцца прычыны роспуску Беларускага зьезду, звычайна за прычыну лічаць контррэвалюцыйнасьць яго. Але тады незразумела, чаму зьезд быў распушчаны толькі на трэйці дзень работы..."

Колькі радкоў ніжэй:

2) „Беларускі зьезд і быў распушчаны за контррэвалюцыйную спробу прысвоіць сабе дзяржаўную ўладу ў Беларусі". (б. 192).

Што-ж кажуць пра гэта дакумэнты й сьветкі?

У Менску ў 1954 годзе выйшаў 4-ты том дакумэнтаў і матарыялаў пад загалоўкам „Из Истории установления советской власти в Белоруссии и образования БССР". У гэтай кнізе ёсьць гэткі дакумэнт, перадрукаваны з газэты „Советская Правда" ад 19-га сьнежня старога стылю 1917 году.

„1917 год, 17 сьнежня. Паведамленьне аб роспуску нацыяналістычнага зьезду, скліканага контррэвалюцыйнай „Беларускай Радай".

„На загад Савету Народных Камісараў распушчаны „беларускі зьезд". Асноўны матыў — жаданьне „беларускага зьезду" стварыць у краі сэпаратна-паралельную нацыяналістычную ўладу і непадпарадкаваньне існуючай уладзе Саветаў. Дэлегатам зьезду запрапанавана на працягу 24 гадзінаў выехаць у свае мясьціны. У часе зьезду ягоныя кіраўнікі дзеялі сэпаратна ды ня імкнуліся знайсьці агульнага кантакту зь існуючай савецкай уладай".

Як ведама, гэтаму бальшавіцкаму загаду Ўсебеларускі Кангрэс не падпарадкаваўся, і сваю працу часова перапыніў толькі пад націскам зброі бальшавіцкіх захопнікаў. Праца Ўсебеларускага Кангрэсу завяршылася абвешчаньнем 25 сакавіка 1918 году незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Паводля аўтараў кнігі „История Минска", выдадзенай Акадэміяй Навук у Менску ў 1957 годзе, Усебеларускі Кангрэс „сваім складам быў чарнасоценна - буржуазным". Савецкія гісторыкі-круцялевічы ў ачарняньні нашага вызвольнага руху перабралі ўжо ўсе магчымыя эпітэты. Яны, як бачым, хапаліся навет за абсурднае азначэньне „чарнасоценна - буржуазны". Чарнасоценства, як ведама, — зьява чыста расейска - шавіністычная, рэакцыйная й нясумяшчальная (зразумела, на здаровы розум) зь ніякім незалежніцкім нацыянальным адраджэньнем.

Пра Усебеларускі Кангрэс 1917 году ёсьць шмат красамоўных і праўдзівых сьветчаньняў. Да іх дадамо тут цяпер яшчэ адно, гэтым разам з польскага боку.

Паміж Беларускаю Народнаю Рэспублікай і незалежнаю Польшчай вялікай прыязьні, як ведама, не магло быць з прычыны польскае захопніцкае палітыкі ў дачыненьні да Беларусі. Дзеля гэтага якраз з гледзішча гістарычнае крытыкі польскія пазытыўныя водгукі пра Беларускую Народнуы Рэспубліку павінны быць больш аб'ектыўныя й пераконлівыя для скептыкаў у гэтым пытаньні. Гутарка тут ідзе пра выдадзеную ў 1920 годзе ў Варшаве брашуру польскага аўтара Весьлава Каліноўскага „Квэст'я польска а Бялорусь". Вось што аўтар брашуры пра Ўсебеларускі Кангрэс па двух гадох пасьля гэтае падзеі. пісаў:

„Перш-на-перш зварачае на сябе ўвагу Ўсебеларускі Кангрэс, скліканы ў Менску ў канцы сьнежня 1917 году. Зьехалася туды ўсё, што было: дэлегаты ад воласьцяў, ад павятовых і губэрнскіх земстваў, ад местачковых самаўрадаў, каапэратываў, работніцкіх прафэсійных саюзаў, беларускіх вайсковых згуртаваньняў з усіх франтоў, усялякіх грамадзкіх арганізацыяў, палітычных партыяў Беларусі і гэтак далей. Беспасярэдня Кангрэс абыймаў прадстаўнікоў губэрняў Менскае, Магілеўскае, Віцебскае, беларкіх частак Смаленшчыны( разам зь местам Смаленскам — 10 дэлегатаў ад гарадзкога самаўраду) і Чарнігаўшчыны, а таксама вольных яшчэ тады ад нямецкай акупацыі ўсходніх паветаў Віленскае губэрні; пасярэдня — заходняе Віленшчыны й Горадзеншчыны ў васобе дэлегатаў ад жыхарства выгнанага з родных мясьцінаў адступаючым расейскім войскам. Усіх разам зьехалася каля дзьвюх тысячаў, упаўнаважаных пастанаўляць аб долі цэлае Беларускае зямлі, Народнае Рэспублікі".

Прачытаўшы гэта, лягчэй робіцца разумець і гэны бальшавіцкі загад аб роспуску Ўсебеларускага Зьезду. Ня дзіва, што, як гаворыць дакумэнт, у часе Зьезду ягоныя кіраўнікі „дзеілі сэпаратна ды ня імкнуліся знайсьці агульны кантакт зь існуючай савецкай уладай": за Ўсебеларускім Кангрэсам 1917 году была цэлая Беларусь, супраць—гвалт чужацкае зброі.

Вось чаму ў Савецкай Беларусі дакумэнтальным разглядам тэмы Ўсебеларускага Зьезду ніхто не займаецца (хоць-бы ў такой ступені, як гэта рабілася ў БССР у сярэдзіне дваццатых гадоў): сьцень сталінаўскага табу ўсё яшчэ вісіць над гэтым пытаньнем. Адна з дадатковых перашкодаў беларускім савецкім гісторыкам — тое, што дасюль яшчэ яны ня маюць свайго гістарычнага часапісу (акалічнасьць, што тармозіць наагул разьвіцьцё гістарычнае навукі ў Беларусі).

Тэмай Ўсебеларускага Кангрэсу ня перастае тымчасам цікавіцца савецкая публіцыстыка, як звычайна, выхапляючы з кантэксту паасобныя выказваньні пра Кангрэс, тэндэнцыйна насьвятляючы (або прамоўчваючы) гістарычныя факты. За прыклад гэткага трактаваньня тэмы можа быць артыкул С. Пачанінава „На службе у интервентов", апублікаваны ў 1966 годзе ў расейскамоўным часапісе „Неман", што выдаецца пры Саюзе пісьменьнікаў БССР. У артыкуле апісваюцца падзеі на Беларусі ад другое палавіны 1917 году да канца 1918-га, калі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пакінула Менск.

„Асабліва зацяты супраціў, — піша Пачанін, — выявілі буржуазныя нацыяналістыя. Іхныя арганізацыі былі цэнтрам усіх найбольш ашалелых контррэвалюцыйных элемэнтаў. Задзіночаным органам беларускіх буржуазных нацыяналістычных арганізацыяў сталася ‚Беларуская Рада', створаная заміж так званага ‚Беларускага Нацыянальнага Камітэту' ў чырвені 1917 году ў Менску на зьезьдзе нацыяналістых" (б. 143).

І далей апісваецца гісторыя навыварат скліканьня Ўсебеларускага Зьезду, выданьня трох устаўных граматаў ды абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, гісторыя збройных і дыпляматычных канфліктаў вакол Беларускае Народнае Рэспублікі. Пасьля ўсіх апісаньняў Пачанін канчае свой артыкул раптам на цьверджаньні:

„Першы зьезд Камуністычнае партыі (бальшавікоў) Беларусі 30 сьнежня 1918 году прыняў гістарычную пастанову, што паклала пачатак першаму пэрыяду ў разьвіцьці Беларусі, пэрыяду нараджэньня й разьвіцьця ейнае нацыянальнае дзяржаўнасьці".

Пачанінаў артыкул асабліва зырка ілюструе й падмацоўвае адно з асноўных палажэньняў беларускае вольнае гістарыяграфіі. А гэта тое, што ідэя нацыянальнае свабоды беларускага народу, ідэя беларускае дзяржаўнасьці, уцелаўлёная праз Першы Ўсебеларускі Кангрэс у Беларускай Народнай Рэспубліцы, храналягічна йшла паперадзе ідэі беларускае савецкае дзяржаўнасьці.

Між іншага, вышэй згаданы Круталевічаў артыкул мае ў сабе таксама пацьверджаньні тэзы беларускае нацыянальнае гістарыяграфіі пра тое, што савецкая дзяржаўнасьць была нічым іншым, як рэакцыяй на дзяржаўнасьць нацыянальную.

Гэтак, пішучы пра падзеі ў студзені 1918 году, аўтар сьцьвярджае:

„На даным этапе, як сьветчаць дакумэнты, абвяшчэньне сувэрэнай рэспублікі яшчэ ня лічылася неабходным". (б. 196). І далей: „З дакумэнтаў вядома, што на 28 лютага 1918 году быў назначаны Другі зьезд Саветаў Заходняй вобласьці (гэтак у афіцыйнай савецкай тэрміналёгіі звалася тады Беларусь— Я. З.)... З-за нямецкага нашэсьця зьезд давялося перанесьці на красавік. На зьезьдзе не закраналася пытаньня аб утварэньні БССР. Не ўспамінаецца аб гэтым у дэкляраціі аб Беларускай Радзе". (б. 197).

Ленін і Камуністычная партыя беларускім пытаньнем не займаліся датуль, пакуль іх ня змусіла да гэтага канечнасьць — патрэба змагацца зь беларускай нацыянальнай рэвалюцыяй. **„Беларускае пытаньне з тае прычыны, што бальшавікі не ўзялі на яго патрэбнае ўвагі, прычыніла нам пэўныя няпрыемнасьці"**—далікатна прызнаваўся яшчэ ў 1925 годзе адзін з галоўных бальшавіцкіх дзеячоў на Беларусі Вільгэльм Кнорын у сваёй кнізе „1917 год в Белоруссии и на Западном фронте" (Менск, 1925).

Бальшавіцкае зацікаўленьне беларускім пытаньнем, такім парадкам, не станавіла нейкай пазытыўнай праграмы з думкай пра дабро беларускага народу, а было вымушанай **рэакцыяй** на нацыянальна-вызвольны рух. БССР-жа сталася ўвасабленьнем перахопленай і пагвалчанай ідэі беларускае нацыянальнае дзяржаўнасьці. Ігнараваць, аднак, беларускае пытаньне зусім, як гэта бальшавіцкая партыя рабіла працягам усяе свае дакастрычніцкае гісторыі, пасьля Ўсебеларускага Кангрэсу ўжо было немагчыма. У гэтым — гістарычная роля Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году.

**Я. Запруднік**

---

*УСІМ НАШЫМ СУРОДЗІЧАМ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ*

*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ*

**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1968 ГОДУ**

*АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ*

*Галоўная Управа БАЗА*
*Рэдакцыя газэты „БЕЛАРУС"*

---

## ПАДТРЫМАЙЦЕ РОДНАЕ ДРУКАВАНАЕ СЛОВА

**У сувязі з канцом 1967 году ўжо час аднавіць падпіску на газэту „Беларус" на наступны 1968 год. Напамінаючы пра гэта, мы зьвяртаемся да нашых Суродзічаў у Вольным Сьвеце, перш-наперш у Задзіночаных Штатах і Канадзе, з просьбай прыняць гэтую справу шчыра да сэрца і, не адкладаючы на пасьля, безадкладна выслаць падпіску й заахвоціць зрабіць гэта й тых, што дасюль „Беларуса" ня выпісвалі.**

**Як усім добра ведама, газэта „Беларус" выдаецца вылучна за грошы, прыдбаныя з падпіскі, ахвяраў беларускага грамадзтва ды дапамогі беларускіх грамадзкіх арганізацыяў.**

**Але каб газэта магла рэгулярна й бесьперапынна выходзіць і ў далейшым, неабходна мець большую колькасьць рэгулярных падпісчыкаў, чымся было іх дасюль. Таму ветліва просім нашых дасюлешніх падпісчыкаў кажнаму прыдбаць прынамся па адным новым падпісчыку нашае газэты.**

**Навет у выпадку й такога павялічэньня колькасьці падпісчыкаў, з прычыны параўнальнага невялікай колькасьці сьведамых Беларусаў у Вольным Сьвеце, з аднае падпіскі газэта ў ніякім выпадку існаваць ня зможа. Таму пажадана, каб ахвяры на газэту тых нашых Суродзічаў, якім іхнае матар'яльнае палажэньне лёгка дазваляе даць значна больш, чымся звычайную падпіску, былі не аднаразовыя, а сыстэматычныя: месячныя або гадавыя. Мы вельмі моцна дзякуем тым, што ахвяры, большыя або меншыя, дагэтуль давалі, і заклікаем іх быць такімі-ж або й шчадрэйшымі яшчэ ахвярадаўцамі й надалей ды заахвоціць і іншых стацца таксама ахвярадаўцамі нашае газэты.**

**Мы асабліва ўдзячныя такім нашым арганізацыям, як Аддзелы БАЗА ў Нью Джэрзі, Кліўлендзе, Дэтройце й Лёс Анджэлес ды Згуртаваньне Беларусаў штату Іліной, што або із свае арганнізацыйнае касы, або шляхам арганізаваных зборак сярод сваіх сяброў, выдатна дапамаглі нашай газэце. Мы таксама хацелі-б, каб дапамога нашых арганізацыяў была не аднаразовая, а сыстэматычная кажнага году, як гэта робіць Аддзел БАЗА ў Нью Джэрзі.**

**Дарагія Суродзічы! Не дапусьціце да таго, каб „Беларус", сяньня адзіная нашая нацыянальная газэта ў Вольным Сьвеце, апынулася ў бязвыхадным палажэньні й спыніла свой выхад. Наадварот, яна і ў новым 1968 годзе, павінна выходзіць рэгулярна, як і ў 1967 годзе.**

**А гэта будзе залежаць вылучна ад нас усіх.**

**Рэдакцыя й Выдавецтва „Беларуса"**

BIELARUS
Byelorussian Newspaper of North America
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
Address in U.S.A.: 166 — 34 Gothic Drive. Jamaica. N. Y. 11432.
Address in Canada: Byelorussian Canadian Alliance
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 6.00 yearly.
БЕЛАРУС — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдаюць: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртуваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкою — 6 дал. на год.

# ШТО ДАУ БЕЛАРУСІ КАСТРЫЧНІК

У лістападзе сёлета споўнілася 50 год ад бальшавіцкае рэвалюцыі 1917 году. Юбілей гэты шумна адзначыла Масква. Таксама і ўсе нерасейскія народы, што зьяўляюцца часткаю маскоўскае савецкае імпэрыі, у тым ліку й беларускі народ, былі прымушаныя ўзносіць хвалу ўгодкам гэтае падзеі, якая фактычна адно перамалявала расейскія царскія аковы зь белага на чырвоны колер ды йшчэ больш узмоцніла нацыянальнае й сацыяльнае прыгнечаньне.

Бальшавікі 50 год таму на чале зь Ленінам і Троцкім паднялі рэвалюцыю пад лёзунгам „Хвабрыкі работнікам, зямля сялянам". Як ужо відаць із самага лёзунгу, рэвалюцыя не прадбачвала радыкальных палітычных зьменаў для народаў, што сілаю зброі былі ўлучаныя ў склад расейскае імпэрыі. На пэрыфэрыях-жа расейскае імпэрыі разгортваюцца ў гэным часе нацыянальныя рэвалюцыі: арганізуюцца нацыянальныя вайсковыя адзінкі, стварающа нацыянальныя арганізацыі й народныя прадстаўніцтвы, якія потым становяцца зародкам абвешчаных нацыянальных незалежных дзяржаваў нерасейскіх народаў. Гэткім парадкам, наступны 1918 год характарызуецца распадам расейскае імпэрыі на незалежныя дэмакратычныя дзяржавы або народныя рэспублікі.

Беларускі народ, побач зь іншымі паняволенымі Расеяй народамі, вуснамі сваіх прадстаўнікоў абвяшчае Актам 25 сакавіка 1918 году Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай у форме Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзевяць месяцаў пазьней, 1-га студзеня 1919 году пастановаю 6-ае Паўночна-Заходняе абласное канфэрэнцыі Расейскае Камуністычнае партыі бальшавікоў у Смаленску была створаная Беларуская Савецкая Рэспубліка.

Прыгледзьмася цяпер бліжэй, што атрымаў і атрымоўвае беларускі народ ад савецкае ўлады, што паўстала ў выніку Кастрычніцкае рэвалюцыі, і якая сілаю была накінутая на ўжо вольны беларускі народ.

Адным з атрыбутаў эканамічнага разьвіцьця Беларусі зьяўляецца жыхарства. Аднак за пэрыяд ад 1926 да 1939 году яно ўзрасло з 7,9 міліёнаў да 8,9 міліёнаў (у межах цяперашняе БССР разам зь беларускай Беласточчынай) заміж 11.5 міліёнаў, бяручы сярэдні для Беларусі 2% натуральны прырост.

З 1939 году да апошняга перапісу ў 1959 годзе колькасьць жыхарства Беларускай ССР зьменшылася з 8,9 міліёнаў да 8,0 міліёнаў, тымчасам як у РСФСР яно ўзрасло із 108 да 117 міліёнаў, у Узбэцкай ССР — із 6,3 да 8,1 міліёнаў, у Казахскай ССР — із 6,0 да 9,3 міліёнаў, у Грузінскай ССР — з 3,5 да 4,0 міліёнаў.

Прычым на 1960 год Цэнтральнае Статыстычнае Управленьне прадбачвала ўзрост жыхарства БССР да 8,1 міліёнаў заміж 8,2 міліёнаў. Гэткім парадкам, за 34 гады бальшавіцкага гаспадараньня ў Беларусі жыхарства ейнае ўзрасло із 7,9 да 8,1 міліёнаў або на 200.000 чалавек.

Асабліва вымоўныя ў гэтым сэнсе 20 міжперапісных гадоў: 1939-1959. Бяручы на ўвагу сярэдні для Беларусі натуральны прырост 2% ў год, у 1959 годзе БССР у ейных сучасных межах мусіла-б мець звыш 14 міліёнаў жыхарства, а ня 8,0 міліёнаў, як паказаў перапіс 1959 году. Значыцца, за ўспомненае 20-цігодзьдзе Беларуская ССР мела звыш 6 міліёнаў дэфіцыту жыхарства, з чаго, як давёў Андрэй Багровіч у сваёй працы „Жыхарства Беларускай ССР у сьвятле перапісу 1959 году", 2 міліёны прыпадаюць на страты, выкліканыя Другой сусьветнай вайной, а 4 міліёны на страты, спрычыненыя бальшавіцкай няволяй (сталінаўскія чысткі, высылкі, раскулачваньне, прымусовыя перасяленьні, зьменшаньне натуральнага прыросту ў выніку палітычна-эканамічных абставінаў).

Калі-ж ходзіць пра найвялікшыя эканамічныя багацьці Беларусі, падобная доля, што й жыхарства, спаткала перш-наперш беларускі лес. Яшчэ ў 1958 г. аўтары альбому „Савецкая Беларусь" прызналіся, што „сьпелага лесу стала ў Беларусі менш, і дзяржаўным народнагаспадарскім плянам лесанарыхтоўкі значна скарочаныя". Аднак згодна паведамленьня ЦСУ ў наступным, г. зн. у 1959 годзе на Беларусі выразалі 163% заплянаванае дрэвясіны, тымчасам як у РСФСР — толькі 33%. Калі гэныя 163% зьяўляюцца „значным скарачэньнем", дык можам сабе толькі ўявіць, наколькі дзікім спосабам г. зв. народная ўлада зьнішчае беларускія лясы.

Савецкі бюджэт на 1967 год складаў 110.015.201.000 рублёў зь перавагай даходаў над расходамі ў суме 234.724.000 рублёў. Бюджэт БССР у тым-жа 1967 годзе складаў 2.067.201.000 рублёў або адну пяцьдзесят трэйцюю частку агульнасаюзнага бюджэту. Не зважаючы на гэткі мізэрненькі бюджэт, Беларусь сяньня прадукуе:

- кажны пяты савецкі трактар,
- кажны шосты матацыкль,
- кажны восьмы мэталярэжучы станок,
- трынаццаты радыяапарат і тэлевізар,
- васемнаццаты грузавік,
- восьмую аўтаматычную лінію,
- амаль трацiну калійных удабрэньняў,
- адзінаццатую частку льняных тканяў.

Гэткая прадукцыя магчымая ў краёх, эканоміка якіх базуецца на даходзе, а галоўна на крэдыце. У эканоміцы-ж БССР адсутнічае адно й другое, таксама як і адсутнічаюць статыстычныя дадзеныя што да гандлю БССР як унутры СССР, гэтак і за межамі. Гэта таму, што Беларусь ніякіх эканамічных разьлікаў з гандлю ня мае. Гэтыя разьлікі вядзе Масква як за сваю ўласную прадукцыю.

У скароце маскоўская эканамічная палітыка на Беларусі выглядае гэтак: БССР атрымоўвае ад Масквы кораткатэрміновую пазыку ў форме бюджэту, якую павінна зьвярнуць на працягу аднаго году. Падлічыўшы кошт гатовае прадукцыі БССР бачым, што Масква атрымлівае зь Беларусі цэлы ейны бюджэт назад з, прыблізна, 300% даходу.

Такога барбарскага рабаваньня цэлага народу ня ведае ніякі заходні каляніялізм у пэрыяд найбольшага свайго росквіту. Ня ведаў гэтага й беларускі народ, пакуль ня трапіў у бальшавіцкую няволю.

**Ул. Сьцяблевіч**

*ДА 50-ЫХ УГОДКАЎ БНР*

# АБАПІРАЮЧЫСЯ НА НАРОД

Паводля савецкіх гісторыкаў, беларускі нацыяналізм, зь неадлучным эпітэтам „буржуазны", быў рухам рэакцыйнае інтэлігенцыі, што знаходзілася на ўслугах заходняга імпэрыялізму. Гэткім, у сьвятле савецкіх гісторыкаў, было й найвышэйшае выяўленьне гэтага нацыяналізму — бээнэраўскі рух за стварэньне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, які быццам ня меў ніякае апоры ў беларускім народзе. Надрукаваны ў лютаўскім нумары „Полымя" за сёлетні год артыкул Вадзіма Круталевіча пра дзейнасьць беларускіх нацыяналістых у 1917 годзе й скліканы імі Першы Усебеларускі Кангрэс гэтак і загалоўлены — „Без народнай апоры". Затое поўную апору быццам меў рух за ўстанаўленьне савецкай улады ў Беларусі: „Менавіта сяляне ў саюзе з рабочай клясай і будавалі савецкую ўладу ў Беларусі", — робіць высноў Вадзім Круталевіч.

Тымчасам поўнасьцяй даведзена, навет на аснове сьветчаньняў і сьцьверджаньняў аўтарытэтных савецкіх кіраўнікоў, што якраз камунізм ня меў у Беларусі народнае апоры й быў імпартаваны звонку, з Расеі. І наадварот, якраз беларускі нацыяналізм і нацыянальны рух за стварэньне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі меў цьвёрдую народную аснову. Рух гэты быў ачолены ў 1917 годзе Вялікай Беларускай Радай, а пасьля Першага Усебеларускага Кангрэсу — Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, у скарачэньні Радай БНР. У згаданым сваім артыкуле навет Круталевіч цьвердзіць, што ў пэрыяд скліканьня й правядзеньня Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ў сьнежні 1917 году **„Вялікую Беларускую Раду падтрымлівалі прадстаўнікі арміі, Беларускай Сацыялістычнай Грамады, даўнейшыя дзеячы „на беларускай ніве"**. Вось-жа гэтыя даўнейшыя дзеячы „на беларускай ніве", пра якіх з ноткай пагарды адклікаецца Круталевіч, гэта правадыры адраджэнскага нашаніўскага руху, а газэта „Наша Ніва", вакол якой нацыянальна-адраджэнскі рух гуртаваўся, была фактычным органам Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

Ня толькі ў беларускай нацыяналістычнай, але і ў савецкай гістарычнай літаратуры колькі хаця довадаў на тое, што „Наша Ніва", а тым самым і Беларуская Сацыялістычная Грамада мела поўную апору ў беларускім народзе. Даволі паклікацца на гістарычны артыкул былага сакратара ЦК КПБ акадэміка Ц. Гарбунова „Книгопечатание в Белоруссии конца XIX — начала XX века", зьмешчаны ў першым томе выдадзенай у 1964 годзе ў Маскве юбілейнай кнігі „400 лет русского книгопечатания". Акадэмік Гарбуноў у сваім артыкуле піша: **„В истории борьбы белорусского народа за создание своей государственности, а также за создание народной национальной литературы и культуры „Наша Ніва" сыграла важную роль. Она стремилась нести идеи национальной свободы и независимости в среду своих читателей, стала центром белорусской литературы... Газета имела тесную связь с народными массами, всегда стремилась ее укреплять и расширять"**. Інакш кажучы, „Наша Ніва" й нашаніўства, зь якога беспасярэдня разьвіўся нацыянальны бээнэраўскі рух 1917 і наступных гадоў, мелі поўную апору ў народзе.

Ідэялёгі беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху часоў „Нашай Нівы", а пазьней — ідэялёгі бээнэраўскага руху — Янка Купала, Якуб Колас і Зьмітрок Бядуля ў сваіх творах 1917-1922 гадоў разглядалі Кастрычніцкую рэвалюцыю й зроджаную ёй савецкую ўладу, як чужую й варожую беларускаму народу зьяву. Бальшавіцкай рэвалюцыі яны супрацьстаўлялі ў сваіх творах нацыянальную рэвалюцыю беларускага народу, што разгортвалася тады пад сьцягам БНР. Іхныя творы гэнага часу, як супярэчныя ідэям камунізму, забароненыя ў Савецкай Беларусі й сяньня. А што Янка Купала й Якуб Колас, вызнаныя самімі-ж бальшавікамі народнымі паэтамі Беларусі, дый Зьмітрок Бядуля ня мелі апоры ў беларускім народзе, пра гэта не адважаюцца гаварыць навет савецкія аўтары.

Пры ўсім гэтым, аднак, нельга не адзначыць і таго, што нацыянальны беларускі рух усё-ж ня быў у дастатковай ступені падхоплены народнымі масамі. Але гэта вылучна з прычыны недастатковай нацыянальнай сьведамасьці гэных масаў і, галоўна, з прычыны недастатковай колькасьці актыўнай нацыянальнай інтэлігенцыі на мясцох, што магла-б ачоліць і пакіраваць гэты рух. Але гэта ня значыць, што гэныя народныя масы падтрымлівалі бальшавізм. Наадварот, па ўсёй Беларусі ўспыхвалі ў гэным часе супрацьбальшавіцкія збройныя паўстаньні, якія, з прычыны адсутнасьці нацыянальнага кіраўніцтва, у бальшыні сваёй насілі стыхійны характар бяз выразна азначанай скіраванасьці. Затое там, дзе гэтае нацыянальнае кіраўніцтва было, антыбальшавіцкі рух меў ясна вызначаную мэту — стварэньне й абарону абвешчанай 25 сакавіка 1918 году незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

Такім збройным актам беларускага народу было Слуцкае Паўстаньне ў канцы 1920 году. У рэзалюцыі Першага Беларускага Зьезду Случчыны 14 лістапада 1920 году, які й пастанавіў пра выбух паўстаньня, было сказана: **„Першы Беларускі Зьезд Случчыны... вітае найвышэйшую Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і заяўляе, што ўсе свае сілы аддасьць на адбудову Бацькаўшчыны, катэгарычна пратэстуючы супраць заняцьця нашае Бацькаўшчыны чужацкімі й самазванымі савецкімі ўладамі. Хай жыве вольная й незалежная Беларуская Народная Рэспубліка!"** Слуцкае паўстаньне, у якім змагалася звыш дзесяцёх тысячаў беларускіх сялянаў супраць колькаснай перавагі ворага на працягу цэлага месяца, сяньня зусім прамоўчваецца савецкімі гісторыкамі.

Прамоўчваецца затым, што яно ўшчэнт разьбівае савецкую тэзу аб тым, што беларускі нацыянальны бээннэраўскі рух быццам ня меў народнае апоры й што апору гэтую мелі бальшавікі. Савецкія гісторыкі Слуцкаму паўстаньню за незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі ня могуць проціўставіць ніводнага ў гэткім маштабе збройнага выступленьня беларускага народу за ўладу Саветаў.

Прыведзеныя гэтта аб'ектыўныя гістарычныя факты й аргумэнты пераконліва паказваюць, што беларускі нацыянальны рух 1917-1920 гадоў за стварэньне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі меў вялікую апору ў беларускім народзе.

**Ст. Станкевіч**

# НАРАДА МОЛАДЗІ Ў НЬЮ БРАНСЬВІКУ

25 лістапада сёлета Аддзел Арганізацыі Беларуска - Амэрыканскай Моладзі (раней — Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы — ЗБМА) у Нью Брансьвіку адзначыў 10-ыя ўгодкі свайго існаваньня. З гэтае нагоды Галоўнае Кіраўніцтва Арганізацыі Моладзі зладзіла ў Нью Брансьвіку нараду моладзі, у якой прынялі ўдзел кіраўнікі й сябры аддзелаў Арганізацыі. Нарада адбывалася ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру (пад царквой) у Гайлэнд Парку, прадмесьці Нью Брансьвіку.

Нараду вёў Галоўны Кіраўнік Арганізацыі сп. Уладзімер Дунец. У выніку ўзапраўды паважных нарадаў было пастаноўлена: 1. Дакааптаваць у Галоўнае Кіраўніцтва сп-чню Крыстыну Каваленка й сп. інж. Кастуся Калошу. 2. Ажывіць дзейнасьць Аддзелу Арганізацыі ў Нью Ёрку ды імкнуцца заснаваць новыя аддзелы ў тых пунктах, дзе ёсьць некаторая колькасьць беларускай моладзі. 3. Паправіць стан касы Арганізацыі шляхам актыўнага збору сяброўскіх складак, ахвяраў, правядзеньня вялікай лятарэі, арганізацыі кіёскаў, арганізаваньня калядоўшчыкаў і валачобнікаў ды іншых прыбытковых мерапрыёмстваў. 4. Выдаць новы значок Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі. 5. Працягваць выдаваць часапіс „Беларуская Моладзь". 6. Закончыць справу выданьня Альманаху Арганізацыі. Дзеля гэтага вызначаная была камісія ў складзе: сп. Аўгена Лысюка — старшыні, сп. Вячаслава Станкевіча — рэдактара, сп-ні Ганны Дубяга — сакратара.

Калі ходзіць пра дзейнасьць Юбіляра-Аддзелу ў Нью Брансьвіку, дзейнасьць гэтая раней вялася пад кіраўніцтвам сп. Міхася Каранеўскага, а цяперака — пад кіраўніцтвам сп. Аўгена Лысюка.

У канцы нарады ганаровы сябра Арганізацыі сп. Міхась Тулейка прачытаў рэфэрат на тэму „Ідэя й заданьні Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі". Канфэрэнцыя закончылася праьяньнем песьні „Беларусь — наша Маці-Краіна".

*СЯРОД СУРОДЗІЧАЎ У НЬЮ ДЖЭРЗІ*

# УГОДКІ ЯНКІ КУПАЛЫ Й ЯКУБА КОЛАСА

Стараньнем Беларускага Культурна-Асьветнага Камітэту ў Нью Джэрзі 19 лістапада была зладжаная ў Нью Брансьвіку ўрачыстая акадэмія дзеля ўшанаваньня 85-ых угодкаў ад нараджэньня нашых найвялікшых паэтаў Янкі Купалы й Якуба Коласа.

Цікавы рэфэрат на гэтую тэму прачытаў д-р Ст. Станкевіч, у якім была адзначаная вялікая роля Купалы ў разьвіцьці беларускае паэзіі, тады калі Колас, апрача сваіх паэтычных твораў, галоўна вызначыўся як стваральнік, пачатай яшчэ ў канцы мінулага стагодзьдзя, беларускай мастацкай прозы. Важным мамэнтам рэфэрату было вызначэньне ўдзелу й вялікае ролі абодвых паэтаў у беларускім нацыянальным адраджэньні ў нашаніўскую пару ды іхнага ідэйнага становішча да савецкае ўлады пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

З пэрспэктываў сяньняшняга дня ды пры дапамозе новых фактаў, выяўленых і ў беларускім падсавецкім друку, дакладчык даў поўны ідэйны профіль Купалы й Коласа, як волатаў беларускага нацыянальнага духа, што ў часы навет жорсткага перасьледаваньня ўсяго лепшага й высокага непахісна стаялі на старожы нацыянальных і людзкіх ідэялаў. Тыя вымушаныя на абодвых хваласьпевы бальшавізму й ягоным правадыром ня могуць разглядацца як шчырае й свабоднае выяўленьне іхных паглядаў.

Мастацкае чытаньне твораў Купалы й Коласа ў выкананьні сп-ні Г. Русак і д-ра Ул. Бакуновіча дапоўніла праграму ўрачыстасьці. У часе вечару была наладжаная ў залі выстаўка розных выданьняў твораў Купалы й Коласа ды працаў пра іхную творчасьць як эміграцыйных, гэтак і выдадзеных у БССР.

Пасьля кароткага перапынку з кавай старшыня Рэдакцыйнай Калегіі газэты „Беларус" д-р Ст. Станкевіч прадставіў важнейшыя праблемы, зьвязаныя з газэтай, у сувязі з чым была праведзеная шырокая дыскусія над газэтай.

**Р. Б.**

## У КАМІТЭЦЕ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У НЬЮ ДЖЭРЗІ

Аддзел БАЗА ў Нью Джэрзі бярэ актыўны ўдзел у дзейнасьці мясцовага Камітэту Паняволеных Народаў. Камітэт выслаў апошнім часам палітычным, грамадзкім і царкоўным дзейнікам штату Нью Джэрзі пратэст супраць паняволеньня бальшавікамі народаў Усходняе Эўропы ў сувязі з 50-мі ўгодкамі Кастрычніцкай рэвалюцыі.

1-га лістапада дэлегацыя Камітэту ў складзе ягонага старшыні сп. Д. Марчышына (Украінца) і сп-ні Ганны Стома (Беларускі) наведала Вашынгтон, дзе перадала адмысловыя рэзалюцыі сэнатарам штату Нью Джэрзі.

Вечарам адбыўся банкет удзельнікаў і запрошаных гасьцей ды прадстаўнікоў розных беларускіх арганізацыяў. Банкет меў урачыста-сяброўскі й нацыянальны характар. З прывітальнымі прамовамі выступалі на ім віцэ-прэзыдэнт Рады БНР сп. А. Стагановіч, старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Ул. Курыла, старшыня БАЗА ў Нью Джэрзі сп. С. Гутырчык, старшыня БАЗА ў Клііўлендзе сп. С. Карніловіч, ад Царкоўнай Рады ў Нью Брансьвіку сп. інж. В. Русак, сп. М. Каранеўскі, сп. П. Кулеш і Галоўны Кіраўнік Арганізацыі Моладзі сп. Ул. Дунец.

Вечарам таго-ж дня адбылася танцавальная вечарына.

## КАЛЯДНЫЯ ПАШТОЎКІ

Хаця мастачка сп-ня Тамара Кольба-Стагановіч і ня жыве цяпер у Нью Джэрзі, Беларусы гэтага штату заўсёды ўважаюць яе за сваю жыхарку. Нядаўна ў выданьні ЮНЭСКО выйшла калядная паштоўка, запрапанаваная ёю. Паштоўка вельмі прыгожая, арыгінальная й выкананая паводля беларускага народнага матыву. Варта, каб Беларусы карысталіся гэтай паштоўкай для калядніх прывітаньняў. Гэтым яны будуць прапагаваць беларускае мастацтва й памагаць харытатыўным мэтам такой важнай міжнароднай арганізацыі, як ЮНЭСКО.

## НАРАДЗІНЫ

У спадарства Гэлены й Міхася Каранеўскіх 29 верасьня сёлета нарадзілася дачушка, якую назвалі Каралінай. Сп. М. Каранеўскі заўсёды добры грамадзкі працаўнік, а цяперака ён скарбнік Аддзелу ЗБМА ў Саўт Рывэры — Нью Брансьвіку.

Прыяцелі Спадарства Каранеўскіх зычаць ім сямейнае памысьнасьці ды выхаваць Каралінку на добрую беларускую патрыётку.

* * *

У спадарства Сьвятланы (дачкі спадарства Янушаў) і Вільяма Гартманаў 29 верасьня сёлета нарадзілася дачушка Бэрнадэта.

Знаёмыя й прыяцелі зычаць маленькай Бэрнадэтцы добра гадавацца й вырасьці на добрую беларускую патрыётку.

# НЯ БЫЛО ЧЫМ ХВАЛІЦЦА!

Адным з актаў сьвяткаваньня 50-ых угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, для нас найцікавейшым і найбольш вымоўным, быў аб'яднаны плєнум праўленьняў творчых саюзаў і арганізацыяў Беларусі, што адбыўся ў Менску 23 кастрычніка сёлета. Як можна меркаваць з абшырных справаздачаў, надрукаваных у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 27 кастрычніка, пленум гэты, з гледзішча на свой казённы юбілейны характар, меў выразную тэндэнцыю паказаць шляхі разьвіцьця паасобных галінаў мастацтва Беларусі ў самых ружовых хварбах: павялічыць дасягненьні, нярэдка зусім уяўныя, і зьменшыць або й зусім схаваць няўдачы й адмоўныя бакі. Гэтым аб'яднаны юбілейны пленум радыкальна розьніўся ад нармальных пленумаў і зьездаў працаўнікоў паасобных галінаў мастацтва, на якіх апошнім часам звычайна больш гаворыцца пра адмоўныя, чымся пра дадатныя бакі.

Міністар культуры БССР М. Мінковіч свой даклад на аб'яднаным пленуме прысьвяціў разьвіцьцю беларускага тэатральнага мастацтва. Ён сыпаў чуць не астранамічнымі лічбамі розных дасягненьняў, называў імёны вялікай арміі тэатральных аўтараў і выканальнікаў, падчыркваў вернае служэньне тэатральнага мастацтва — прафэсійнага й самадзейнага — ідэялягічным і практычным патрэбам партыі, але ня ўспомніў і словам пра хранічнае адставаньне й крызіс беларускай драматургіі й тэатраў, пра якія ўвесь час гаварылася на нармальных пленумах і зьездах, а так-жа ў друку. Ня ўспомніў і пра такую ненармальнасьць, што, як сьцьвердзіў на 5-ым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі ў травені леташняга году драматург Аркадзь Маўзон, з усіх 12-ёх прафэсійных тэатраў Беларусі толькі тры працуюць у беларускай мове. Дый гэтыя тры тэатры, і між імі навет найстарэйшы зь іх, менскі драматычны, што горда носіць імя Янкі Купалы, працуе на такой беларускай мове, пра якую пісаў нядаўна ў „Полымі" пісьменьнік Янка Скрыган, што **„сухаць яе з вуснаў артыстаў проста няёмка"**. У гэтай мове, пісаў ён, **„усё выглядае так, нібы са сцэны гаворыць чужаземец, якому вельмі цяжка прызвычаіцца да „правінцыянальных дзівацтваў"**. Тое-ж самае сьцьверджана й на чацьвертым зьезьдзе Беларускага тэатральнага аб'яднаньня ў студзені сёлета.

Старшыня Саюзу кампазытараў Беларусі Рыгор Шырма ў сваім дакладзе пра разьвіцьцё беларускай музыкі за 50 год зрабіў гэткі высноў: **„Па-ранейшаму тэма гэраізму ўва ўсіх яе аспэктах застаецца вядучай у творчасьці кампазытараў"**. Гэтак толькі адну асаблівасьць беларускай музыкі — гэраізм Шырма абагульніў на ўсю музычную творчасьць і тым самым паказаў яе ў няпоўным і непраўдзівым сьвятле. Пры гэтым ён абмінуў поўным маўчаньнем трывожную зьяву ў сучаснай беларускай музыцы, на якую была зьвернутая галоўная ўвага на пятым зьезьдзе кампазытараў Беларусі летась у лістападзе — на ейны ненатуральны адрыў ад нацыянальных асноваў, ад беларускай народнай музыкі.

Падобна й старшыня Саюзу мастакоў Беларусі У. Стальмашонак адзначыў у сваім дакладзе адны толькі „дасягненьні" беларускага выяўленчага мастацтва, якое, кажучы ягонымі словамі, быццам **„разьвіваецца пад плённым уплывам самай перадавой рускай культуры, жывіцца лепшымі вытокамі народнай творчасьці"**. А тымчасам на сёмым зьезьдзе мастакоў Беларусі ў чэрвені 1965 году найбольш войстрая крытыка была сьціраваная на адрыў беларускага мастацтва ад гэных „лепшых вытокаў народнай творчасьці" й наагул ад нацыянальнай глебы. Супраць такой ненармальнасьці зусім нядаўна выступіў у „Полымі" крытык Алесь Яськевіч у грунтоўным артыкуле „Нацыянальнае ў сучасным".

Старшыня Дзяржаўнага камітэту Савету міністраў БССР па кінаматаграфіі Б. Паўлёнак хваліўся ў сваім дакладзе, што із 57-мі мастацкіх фільмаў, створаных пасьля вайны ў студыі „Беларусьфільм", **„36 здымаліся па творах і арыгінальных сцэнарыях беларускіх аўтараў"**. Нажаль, Паўлёнак зусім забыўся пра тую нязвычайна войструю крытыку беларускіх фільмаў, што прагучэла амаль ува ўсіх выступленьнях на 2-ім зьезьдзе кінаматаграфістых Беларусі ў лютым сёлета. Крытыка з прычыны адрыву фільмаў ад нацыянальнай глебы й навет адрыву ад беларускай мовы выявіла тады з раўнавагі й самога Паўлёнка, калі ён, не знаходзячы іншых аргумэнтаў, паставіў быў закід удзельнікам зьезду, што іхнае патрабаваньне, каб беларускія фільмы рабіліся не артыстымі й рэжысэрамі з Масквы й Ленінграду, а беларускімі рукамі, пахне нацыяналізмам.

Гэтак аб'яднаны пленум творчых саюзаў і арганізацыяў Беларусі на 50-ыя ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі быў бадай што поўным запярэчаньнем усіх тых заганаў, недахопаў і патрэбаў, што былі ў цэнтры ўвагі апошніх зьездаў і Беларускага тэатральнага аб'яднаньня, і Саюзу кампазытараў Беларусі, і Саюзу мастакоў, і Саюзу кінаматаграфістых, і Саюзу пісьменьнікаў Беларусі.

Адзін толькі сакратар Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Іван Шамякін у сваім дакладзе на аб'яднаным пленуме патрапіў сказаць некалькі словаў шчырае праўды. Ён сказаў: **„Мы схіляем галовы перад сьветлай памяцьцю тых, хто не дажыў да гэтай слаўнай вышыні — 50-годзьдзя Кастрычніка. Схіляем галовы перад тымі, хто загінуў у баёх з ворагам са зброяй у руках, хто загінуў ад даносаў, паклёпаў, вульгарызатарскай крытыкі"**, інакш кажучы, перад тымі, што загінулі ў змаганьні зь нямецкім фашызмам у апошняй вайне, і што загінулі нявіннымі ахвярамі ад крывавага сталінаўскага тэрору. А тэрор гэны, як і ўся сталінаўская сыстэма, што панурым прывідам вісела над народамі Савецкага Саюзу на працягу двух дзесяцігодзьдзяў, гэта таксама адно з „дасягненьняў" Кастрычніка.

І яшчэ адзін вельмі важны мамэнт у разьвіцьці беларускай літаратуры падчыркнуў Шамякін. **„Раней гаварылі аб жыватворным уплыве літаратуры вялікага рускага народу на разьвіцьцё літаратуры беларускай"**, — казаў ён. **„— Цяпер мы ўсё часьцей гаворым аб узаемаўплыве ўсіх савецкіх нацыянальных літаратур"**. А ўзаемаўплыў і ўзаемаўзбагачваньне — гэта ўжо катэгорыі, што сьветчаць про роўнасьць паасобных літаратараў, а не пра вышэйшасьць адных і ніжэйшасьць другіх.

Зусім супрацьлежная Шамякінавай была заява першага сакратара Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Максіма Танка, які ня выступаў на пленуме, але свае юбілейныя думкі выклаў у артыкуле „Час і літаратура", надрукаваным у верасенскім нумары „Полымя". Сучасная беларуская літаратура, — пісаў Максім Танк, — **„павінна раней за пракурора сыгналізаваць аб непажаданых зьявах і раней за званара даваць кліч аб набліжэньні сьвята ці ўрачыстасьці, быць няпрымірымай да ўсяго, што перашкаджае ў жыцьці"**. Інакш кажучы, літаратура паводля Танка, павінна вярнуцца да свае службовае ролі й стацца партыйным рупарам.

Калі-б з гэтакай меркай падыйсьці канкрэтна да твораў сучаснай беларускай літаратуры, дык трэба было-б зь яе выкінуць што найменш добрую палавіну найлепшых твораў. Мы разумеем, што Танк у моц свайго сакратарскага становішча і ў сувязі з 50-мі ўгодкамі Кастрычніцкай рэвалюцыі ня мог ня выступіць зь нейкім дэклярацыйным артыкулам. Але разам з гэтым, мог-жа ён ды й павінен быў-бы, як Беларус і запраўдны паэта, апрача пракурорскіх і званарскіх функцыяў літаратуры, прынамся згадаць і пра ейныя агульналюдзкія ды нацыянальныя беларускія функцыі.

У прынятым на пленуме прывітальным лісьце Цэнтральнаму Камітэту КПСС, Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР і Савету Міністраў СССР знаходзім і гэткія словы: **„Беларускія пісьменьнікі й мастакі, архітэктары й кампазытары, работнікі тэатру й кінаматаграфіі не ўяўляюць сваёй творчасьці, свайго жыцьця без барацьбы... за вялікія прынцыпы свабоды, роўнасьці, брацтва й справядлівасьці"**.

Усе гэтыя высокія прынцыпы, крывадушна выкарыстоўваныя партыйнай прапагандай, у гэтым выпадку, у вуснах беларускіх пісьменьнікаў і працаўнікоў розных галінаў мастацтва, трэба верыць, прагучэлі зусім шчыра й праўдзіва. Бо якраз за гэтыя прынцыпы й змагаецца апошнімі гадамі беларускае мастацтва, а перш-наперш мастацкая літаратура.

**Ст. Станкевіч**

# 3. ШЛЯХІ ПАНЯВОЛЕНЬНЯ

У двух ранейшых артыкулах мы разгледзілі тыя два супрацьлежныя гістарычныя шляхі, па якіх ворагі Беларусі змаглі кантрабандай прашмугляваць у наш край і замацаваць на нас путы духовага паняволеньня. У парадку выясьненьня, адзначаем, што справы чужых Цэркваў на беларускіх землях мы крануліся проста зь неабходнасьці — з прычыны іх бясспрэчнай сувязі з тэмай духовага паняволеньня нашага народу. Тэму беларускага каталіцызму, і нашага праваслаўя мы пакуль што пакінулі збоку. Кранемся іх у наступным, і апошнім, артыкуле гэтага цыклю і зробім гэта выключна ў вагульным кантэксьце нашай галоўнай тэмы, бязь ніякіх адхіленьняў у гістарычную дэталізацыю і т. п.

Сяньня паўзіраемся на нашу тэму з крыху адменнага гледзішча. Ужо ў першай палавіне мінулага веку, за сьвежымі вятрамі „вясны народаў", пачалі пранікаць на нашыя землі з захаду і хвалі інтэлектуальнага ўздыму, узбуджаныя раней нямецкімі, брытанскімі й француцкімі філязофамі ды сацыяльнымі рэфарматарамі. Характэрнай рысай таго інтэлектуальнага нэо-гуманізму — агульна званага пазытывізмам — было тое, што, абагаўляючы людзкі інтэлект, як галоўны прамотар прагрэсу, ён адначасна бачыў гэны прагрэс хутчэй у дасканаленьні арганізацыйных формаў людзкога сужыцьця, чымся ўва ўсебаковым разьвіцьці індывідуальнасьці чалавека, як гэта абвяшчаў калісь клясычны гуманізм. Важным лягічным рэзультатам такой дызьлякацыі цэнтру ўвагі ў насьвятленьні спраў людзкага быту была канцэнтрацыя на матар'яльных аспэктах таго быту, з тэндэнцыяй да адсоўваньня на далейшы плян, ато й да поўнага выэлімінаваньня, яго духовай надбудовы. Урэшце, каб не кампрамітаваць інтэлекту сьцьвярджаньнем яго відавочнай некампэтэнтнасьці ў справах тае, апошняе, само існаваньне такой надбудовы было пастаўлена пад знак запытаньня.

У такой радыкальна ўпрошчанай і зрацыяналізаванай атмасфэры зарадзіўшыся былі ідэі ўтапічнага сацыялізму, а пазьней і г. зв. навуковага сацыялізму, ці марксізму. На долю нашага стагодзьдзя выпала быць светкам катастрафальнае канфрантацыі ўсяго таго „навуковага" з будзённымі рэальнасьцямі жыцьця, якое ня лёгка даецца ўпрасьціцца, ці ўлажыцца ў загадзя нарыхтаваныя формы. На нас, Беларусаў, прыйшлася бадай ці не найгоршая частка таго кашмарнага дазнаньня, і на гэта ёсьць асаблівыя прычыны. У нас, маскоўскія апосталы сусьветнай рэвалюцыі ўмудрыліся ўпрэгчы і гэну псэўда-навуковасьць таго сацыялізму, і яго безаглядны сацыяльны радыкалізм і навет яго інтэрнацыяналізм, у вадну складаную сыстэму, накіраваную да адзінае мэты: на зьнішчэньне Беларускага Народу, як нацыі.

Усе мы ведаем, зь якой зялезнай пасьлядоўнасьцяй, пад няспынны шум і блеск прапаганды, гэта гангстэрская праграма праводзілася й праводзіцца ў жыцьцё. Спачатку былі фізычна вынішчаны ў нас вышэйшы й сярэдні грамадзкія пласты — галоўныя структурныя часткі нармальнага народнага арганізму. Далей, зь бяспрыкладным зьверствам была паведзена атака на эканамічную базу і духовыя астоі ўцалелага сялянства пры бязупынных натугах распыліць яго адукаваных сыноў і дачок па глухіх закутках „матушкі", каб ня даць ім нагоды служыць свайму аграбленаму краю. Нашай гісторыі і ўсім своеасаблівым народным традыцыям, асабліва-ж беларускай мове, была абвешчаная ціхая зьнішчальная вайна, ад якой няма попуску й па сяньняшні дзень.

Увесь гэты жывёльны маскоўскі наступ супроць беларушчыны, хоць і абурае ўсіх справядліва думаючых людзей, але мала каго дзівіць. Бо даслоўна ўсё, што дасюль дасягнута Масквою, у канчальным разьліку было здабыта ёю на дарозе крывавага тэрору, подступу, ці зладзейства. Ці-ж можна спадзявацца, каб яна раптам узыйшла на дарогу праўды, па якой яна ня звыклая хадзіць? Што нас да жывога абыходзіць і напаўняе горычу, гэта факт удзелу ў расейскім паходзе супроць нас нашых землякоў-Беларусаў.

Прытым ня маем тут на ўвазе ўсіх тых, што чыняць зло з мусу, ці із страху за існаваньне свае, свайё сям'і, блізкіх і знаёмых. Пэўне-ж, гэтым мы іх не апраўдваем, бо зло застаецца злом на заўжды — фактам тэрору ня выбеліш чорнага на белае... Праўда, з фактам тэрору нам нельга ня лічыцца — мы мусім зь ім жыць. Але-ж, тым нямення мы мусім зь ім і змагацца — нажаль, кажны па свойму, у пару паступовай атрофіі грамадзкага высілку. І нічога тут нельга прыдумаць — адно людзкое сумленьне вырашае. Але, па праўдзе, нас цікавіць іншая група спадарожнікаў Масквы сярод нас, а гэта тых, каго ёй удалося паланіць духова за гэтых 50 крывавых год, г. зн. паклоньнікаў марксістаўскай ідэі. Ідэя гэна, хоць фактычна збанкрутавала яшчэ ў 1917 годзе, прычыніла народу нашаму неаблічальныя духовыя шкоды. У сваім непасрэднім узьдзеяньні на ўпрошчаную псыхіку мадэрнага чалавека, ідэя гэта робіць яго чыста сьляпым у дачыненьні да аснаўных рухаючых сілаў космасу, што дзеюць паза датыкальнай і вымяральнай матэрыяй. Чалавек беспаваротна траціць свой кантакт з Богам, а сумленьне людзкое свой адзіны фундамэнт-аснову — канчатковую адказнасьць перад Ім, Тварцом сваім.

Чалавек такі здольны на ўсё: нішчыць, грабіць, біць, прасьледваць, мучыць, забіваць — роўна сваіх, ці чужых. І ўсё гэта ў імя тэй „вялікай ідэі" — сусьветнай рэвалюцыі, у пляне якой: канчальнае вынішчэньне капіталістых-эксплёататараў ды ўсталяваньне г. зв. дыктатуры пралетарыяту (сяньня ўжо добра ведаем, што гэта за дыктатура), якая некалі — тэрмін не азначаны — пад узьдзеяньнем бліжэй неазначаных фактараў мае ператварыцца ў г. зв. бясклясавае грамадзтва з камуністычным ладам і маральлю — „ад кажнага па яго здольнасьці, кажнаму па яго патрэбнасьці".

Лягічныя й практычныя супярэчнасьці гэтага ўтапічнага пляну ажыцьцяўленьня „навуковага" сацыялізму відавочныя далёка ня кажнаму, хоць сяньня з кажным днём яны ўсё больш і больш выходзяць на яў. Тым нямення плян гэты паслужыў, і ўсё яшчэ служыць, выдатным рухавіком для расейскага імпэрыялізму. Пад патрабаваньні таго выгоднага ёй пляну Масква гладка падтасавала і нішчэньне нашай самароднай інтэлігенцыі ў 20-х гадох (нацдэмы, ворагі народу, буржуазныя нацыяналістыя), і руйнаваньне беларускага сялянства (тэорыя кулацтва, калектывізацыя), і няспынны зьнішчальны паход супроць нашай народнай і гістарычнай традыцыі (выкараненьне перажыткаў капіталізму ў сьведамасьці народу), ды ўрэшце й увесь той гвалт, выкрыўляньне й бязьлітаснае калечаньне нашае старавечнае мовы, зь яўнай мэтай загідзіць яе нам так, каб з часам народ сам зрокся скарбу свайго найдаражэйшага на карысьць той „общэпанятнай"... (змаганьне з нацыянальнай абмежаванасьцю, за стварэньне адзінага „савецкага народу"). Як не павярні гэту замысловатую схэму, а яно ўсё так выходзіць, што Беларусам, каб удастоіцца таго шматабяцанага камуністычнага раю, дык трэба концам зракацца сваёй нацыянальнай самабытнасьці і чым хутчэй зьнікнуць зь гісторычнай арэны быццам дзеля дабра чалавецтва і ўсеагульнага прагрэсу... З другога боку, як ня глянь на гэты хітра-мудры плян, дык Маскве зь яго адна толькі карысьць — ніякіх ахвяраў зь яе ён не прадбачае, а ўсё вымушаньня на іншых ахвяры служаць павялічэньню яе моцы, пашырэньню яе славы. Усё гэта гучыць, не раўнуючы, як у той арабскай басьні „з тысячы і аднэй начы". Ды ўсё-ж цяжка замыліць людзям вочы басьнямі — праўда, раней ці пазьней, выйдзе на верх. Так яно ўжо і сталася.

У самой Маскве й па ўсіх большых цэнтрах чырвонае імпэрыі шпаркім тэмпам ідзе працэс ідэйна-палітычнага раскладу. Шэрагі анты-савецкага супраціву, што дасюль фактычна абыймаў адно сялянства, за апошніх 10 год павялічыліся коштам дзьвюх грамадзкіх групаў: творчай інтэлігенцыі і моладзі. І ў гэтым, здаецца, нічога неспадзяванага няма. Творчая савецкая інтэлігенцыя — дзеячы навукі, культуры й мастацтва, навукоўцы, літаратары, паэты, мастакі, акторы, рэжысэры і т. п. — зь першых дзён рэвалюцыі падпала пад нарматывы канонаў марксістоўскай дагматыкі, якія войстра абмяжоўваюць і звужаюць свабоду творчага палёту. Для гэтых людзей, вызваленьне з аковаў тае бязглуздае дагматыкі — адзіны лягічны выхад з сытуацыі. З маладняком справа выглядае крыху адменна.

Моладзь, гэта адбітак сумленьня яе бацькоў. Усё добрае і злое, блескі і цені таго сумленьня, перасачыўшыся цераз крытычную прызму маладое душы, даюць часам зусім неспадзяваны канцавы рэзультат. Вось нешта падобнае здарылася ў Саветах. Моладзь тут, як і ўсюды на зямлі, ёсьць дужа чуткая на маральна-этычныя вартасьці; ды яна-ж і дасужая, нічога ад яе не схаваеш... Вось моладзь гэта зь бегам часу ўсьведаміла сабе дакладна, што бацькі яе чамусьці цалком выкінулі сумленьне із свайго жыцьця, што вось ужо мінула 50 год, як яны дзень-з-ноччу прапагуюць нейкую „праўду", нейкую „справядлівасьць", нейкую „дружбу народаў", ды бясконца абяцаюць усім нейкае „шчасьце", — у запраўднасьці-ж жыцьця адстойваючы яўную няпраўду, а безаглядным гвалтам над правамі адзінкі й цэлых народаў чынячы самую чорную несправядлівасьць, укараняючы ў жыцьцё чалавечае зло й ненавісьць і так пазбаўляючы жыцьцё гэтае яго натуральнай красы, смаку й сэнсу. Будучы радыкальнай па сваёй натуры, моладзь ніяк ня можа прабачыць бацьком гэтых праступкаў — сумных вынікаў страчанага сумленьня. Старэйшыя, із свайго боку, ня ведаюць, што пачаць з гэтым фантам — з гэтай новай формай контррэвалюцыйнай рэакцыі ўнутры свае ўласнае сям'і! Праява гэтая крые ў сабе зародак вялікіх зьменаў на будучыню ў расейскім сьветаглядзе, найбольш характэрнай рысай якога сяньня якраз і ёсьць адсутнасьць сумленьня, запярэчаньне гуманітарнасьці ў дачыненьнях як да сваіх, так і да чужых.

На землях Беларускай ССР гэты працэс узросту анты-савецкіх настрояў адбываецца зь вялікай інтэнсыўнасьцяй. Прычына тут ясная: разьвіваецца ён на глебе прасяклай крывёю нашый народных герояў — а іх мае ў нас ці ня кажная сям'я... Рознымі шляхамі пашыраецца сярод грамадзкасьці, і паглыбляецца, усьведамленьне велічы трагедыі перажытай народам у канцы 20-ых і ў 30-ых гадох. Выглядае, што ахвяра міліёнаў не пайшла на марна. Сяньня крывёю гэнай цэмэнтуецца новы дух салідарнасьці ў народзе па ўсіх чыста землях пасяленьня й перасяленьня Беларусаў. Хоць націск і ціхі тэрор з боку Масквы й ня спыняецца, адпор яму відуча ўзрастае так у межах рэспублікі, як і паза імі.

Цяпер ужо шалёная беларусаедчая палітыка маскоўская выклікае ня боязь, ці адступленьне, а дружную рэакцыю ўзмоцненага супраціву. Змаганьне за вызваленьне Беларусі сяньня йдзе з духам часу. Вялікія міжнародныя зрухі, вызвольныя імкненьні былых каляніяльных народаў, дыпляматычная акцыя на форуме Задзіночаных Нацыяў, ды ўрэшце агульнае ўзбуяньне нацыяналізму па ўсёй зямлі, дадаюць імпэту ды размаху й нашаму, ужо не маладому, беларускаму нацыяналізму.

З усяго гэтага выходзіць, што на землях нашых, ды паміж Беларусаў па ўсім сьвеце, мы наглядаем разьвіцьцё падвойнага працэсу: па першае, працэс падгніваньня тых путаў, якімі Масква адвечна імкнулася абясьсіліць і закабаліць наш народны дух, ды, па другое, хутка ўзрастаючае ўзмацненьне таго-ж зьняволенага беларускага народнага духу скрозь усе грамадзкія пласты. Абодвы працэсы — у нашу карысьць.

**П. Вішнеўскі**

## ДРУКАРСКАЯ КАРПАРАЦЫЯ „ПАГОНЯ"

У пятніцу 24 лістапада 1967 г. адбыўся гадавы сход сяброў друкарскай карпарацыі „Пагоня". Із дакладнай справаздачы й прааналізаваньня фінансавага стану сп. Юркам Станкевічам было відаць, што друкарня „Пагоня" апраўдала сваю мэту. Жадаючых друкаваць у ёй ёсьць даволі. А мэтай карпарацыі было: даць добры й выгадны друк для жадаючых.

У новую ўправу карпарацыі ўвайшлі наступныя асобы: сп. Юрка Станкевіч — старшыня, сп. Вячаслаў Станкевіч — сакратар-скарбнік, Кастусь Калоша — сябра ўправы.

**С. К.**




BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue
Toronto 4, Ont.
Матарыялы да друку, ахвяры й падпіску просім прысылаць на адрыс:
Dr. R. Zuk
54 Mary Street
Barrie, Ont. Tel. 728-7581


# ПОЗІРК НА 1967 ГОД

Нас, беларускую эміграцыю Канады, шмат што турбуе й трывожыць. Нам хацелася-б быць ляпей сарганізаванымі, болей дружнымі, болей актуальнымі, болей ахвярнымі, у нашай моладзі мы хацелі-б бачыць ляпей нацыянальна й грамадзка падрыхтаваную нам зьмену. Інакш кажучы, ня ўсё ёсьць так, як гэта трэба было-б.

Гэта можа быць дрэнна, а можа й не. Залежыць ад таго, ці і ў якой меры мы намагаемся, каб ход рэчаў, зь якога мы не задаволеныя, направіць. Бо-ж як доўга адзінка, ці грамадзтва бачыць свае недахопы й імкнецца іх выпраўляць, так доўга яна, ці яно, расьце й жыве. Гэта толькі, хто захлынуўшыся сваёй удачай „спачне на ляўрах", ці паддаўшыся інэрцыі адмовіцца ад высілкаў змаганьня, той перастае расьці, а пачынае адміраць. Значыць факт, што мы ня ёсьць зь сябе задаволеныя, сам па сабе не гаворыць яшчэ за тым, што з намі блага, наадварот, ён можа прамаўляць на нашую карысьць у выпадку, калі мы не адмаўляемся ад высілкаў змаганьня.

**Якія высілкі мы зрабілі за 1967 год**

**Моладзь.** Пачнем ад найбольшае нашае балячкі, не балячкі, а крывавае раны, што не загоіцца датуль, пакуль у Канадзе ня будзе добра зарганізаванае сталае беларускае школы для моладзі. Ці былі спробы яе наладзіць? Былі, але на гэтым адрэзку змаганьня мы апынуліся пад шчытом.

Затое паўстала арганізацыя моладзі, танцавальны гурток якое адыграў за апошні год не малую ролю. Болей за дзесяць разоў ён выступаў ня толькі на беларускіх імпрэзах — у Таронта, Ашаве, Мантрэалі, ЗША, але й на канадзкіх імпрэзах — праектах стагодзьдзя Канады, ды Канадыйскай нацыянальнай выстаўцы ў Таронта.

**Падзел на групы.** Што нацыянальная беларуская эміграцыя Канады згуртаваная не ў вадным, а дзьвюх групах — гэта яшчэ ня блага. Наадварот, здаровая рывалізацыя між БНА й ЗБК можа быць толькі карыснай, як для цэласьці, так і для паасобных бакоў. Неабходным ёсьць толькі каардынацыйны цэнтр, які-б рэпрэзэнтаваў Беларусаў навонкі ды мабілізаваў, калі трэба, усе сілы разам, прыкладам, для ладжаньня агульнанацыянальных імпрэзаў.

Гэткі цэнтр, Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, мы й маем. На працягу апошняга году ён арганізаваў супольнае, дарэчы адно зь лепшых за ўсе часы, сьвяткаваньне 25-га Сакавіка ў Таронта, ды супольную рэпрэзэнтацыю — удзел Беларусаў у парадзе на стагоднім Домініён Дэй у Таронта. Не ўдалося, аднак, К.К.Б.К. зарганізаваць іншых супольных імпрэзаў для адзначаньня агульнанацыянальных юбілеяў, што прыпадалі ў вапошнім годзе. Не ўдалося гэтаксама К.К.Б.К. навязаць кантакту зь беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі ў далёкіх заходніх правінцыях Канады.

Цікавай праявай беларускага жыцьця, што сьветчыць аб тэндэнцыі да гуртаваньня Беларусаў розных напрамкаў, ёсьць купля супольнай фармы, як цэнтру адпачынку — „Слуцку".

**Арганізаванасьць.** Шмат Беларусаў Канады не ахопленыя нацыянальнымі беларускімі арганізацыямі. Калі ходзіць пра заходнія правінцыі, дык справа прадстаўляецца зусім няясна. Карысным было-б, каб арганізацыі гэных правінцыяў падавалі інфармацыі із свайго жыцьця ў „Вестках з Канады". Не найлепш ёсьць і ў Квібэку. За апошні год нямала было зроблена захадаў збоку ЗБК, каб навязаць цясьнейшую сувязь і ажывіць арганізацыйнае жыцьцё Беларусаў у Мантрэалі. Інтэнсыўная перапіска, ды колькі-лікія паездкі ў Мантрэаль не маглі ня даць вынікаў. Мантрэальскі Аддзел ЗБК пры ўдзеле арганізацыяў і Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Таронта адзначыў акадэміяй ды Багаслужбай угодкі 25-га Сакавіка, пераняў кальпартаж „Беларуса" на Квібэк ды даў падтрымку ў відзе кватэр, ды дапамогі ў працы Беларусам, што прыяжджалі наведаць Экспо 67.

Найляпей, хай сабе й ня ідэальна, прадстаўляецца арганізацыйнае жыцьцё у Таронта. Вакол Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру дзее шэсьць арганізацыяў: Згуртаваньне Беларусаў Канады, Парахвія Б.А.П.Ц. Сьв. Кірылы Тураўскага, Беларуская Каса Крэдыт Юньён, Задзіночаньне Беларускіх Жанчын Канады, Задзіночаньне Беларускае Моладзі Канады й Аддзел Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе. Апошняя арганізацыйная адзінка паўстала ў 1967 г. ў выніку вымогаў самога жыцьця.

З усяе гэтае арганізацыйнае сеткі мусіць быць вылучаная Адміністрацыя будынку Цэнтру, які зьяўляецца супольнай собскасьцяй ЗБК й Парахвіі Б.А.П.Ц.

**Дзейнасьць.** Усе вышэй пералічаныя арганізацыі кіруюцца сваімі собскімі статутамі й пасвойму праўляюць сваю ініцыятыву й дзейнасьць. Лучыць іх, аднак, адзін ідэйны напрамак, у імя якога й існуе між імі гармонія й супрацоўніцтва. Быццам былі яны рознымі ворганамі аднаго арганізму. Таму на дзейнасьць і праявы іхнага жыцьця ў вапошнім годзе глянем агульна.

1967 год для Беларусаў Канады прайшоў пад знакам 450-цігодзьдзя беларускага друку й стагодзьдзя Канады. Большая частка высілкаў, энэргіі й часу арганізацыяў была прысьвечаная адзначэньню гэтых юбілеяў. Да гэтага дайшлі нацыянальныя, парахвіяльныя й рэлігійныя імпрэзы й сьвяты, сяброўскія вечарыны, агульныя абеды з дакладамі, пікнікі.

А штодзённая арганізацыйная праца — паседжаньні, зборкі, сходы, рэпэтыцыі, кальпатраж, адміністрацыя й выдаваньне „Вестак з Канады", усё гэта само не здараецца. У яго трэба ўлажыць шмат часу, грошай, думаньня, нэрваў, турботаў, трэба наесьціся ўдосталь прыкрасьцяў, скаштаваць часам асалоду ўдачы, праглынуць не адну пігулку няўдачы. Усё гэта бяз высілкаў і ахвярнасьці не адбываецца.

А раз высілкі й змаганьне, зь якога мы выходзілі парознаму, было — дык ці-ж не кваліфікуе яно нас, беларускую эміграцыю Канады, як жывую й здольную да росту грамадзкасьць?

Не, 1967 год ня быў пустым, ня быў прыспаным! Хай 1968—юбілейны год БНР — будзе багацейшым на ўклад нашае энэргіі, багацейшы ў плёны.

**Р. Ж.**

*Усіх сваіх чытачоў і ўсё беларускае грамадзтва*

*вітаем*

*З КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ*

*й жадаем ім*

*ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ.*

*Канадыйская Рэдакцыя „Беларуса"*

*Беларуска-Канадыйскі Выдавецка-Мастацкі Клюб „Пагоня" складае свае найшчырэйшыя пажаданьні з нагоды сьвятаў*

*КАЛЯД І НОВАГА 1968 ГОДУ*

*усім сябром, ахвярадаўцам, дабрадзеям і прыхільнікам Клюбу „Пагоня" і іхным сем'ям.*

*Стацца сябром Клюбу — вялікі гонар!*

# АНТЫСАВЕЦКАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ У АТАВЕ

Дэманстрацыя адбылася ў сувязі із сьвяткаваньнем 50-годзьдзя бальшавіцкай „рэвалюцыі". Зарганізаваў яе адмысловы каардынацыйны камітэт з прадстаўнікоў этнічных групаў з-за зялезнай заслоны: Украінцаў, Беларусаў, Палякаў, Чэхаў, Славакаў, Латышоў, Эстонцаў, Летувісаў, Харватаў і іншых. Ад іх імя быў высланы мэмарандум прэм'еру Канады Пірсану, у якім перасьцерагалася перад камуністычнай прапагандай і актыўнасьцю. 6 лістапада была зарганізаваная ў Атаве, у гатэлі Шато Лёр'е, прэсавая канфэрэнцыя, на якой старшыня АБН Я. Стэцько прадставіў канадыйскім журналістым палажэньне паняволеных народаў у СССР і іх змаганьне за вызваленьне.

Вечарам 7 лістапада— у дзень сьвяткаваньня 50 год бальшавіцкага перавароту — перад савецкім пасольствам, дзе было прыняцьце для шматлікіх гасьцей — канадзкіх урадаўцаў і чужаземных дыпляматаў — адбылася мнагалюдная дэманстрацыя нацыянальнасьцяў з-за зялезнай заслоны. Каля 400 асоб, сярод якіх было шмат моладзі, дэманстравалі з транспарантамі, што мелі процібальшавіцкія напісы. Пратэставалі супраць бальшавіцкага расейскага каляніялізму, гэнасыду, ды перасьцерагалі вольны сьвет перад савецкай агрэсіяй. Беларускі транспарант, зроблены беларускімі патрыётамі з Таронта, меў напіс „Фрыдом фор Беларусія". Дэманстранты спалілі савецкі сьцяг, у сувязі з чым 5 асоб паліцыя арыштавала.

Савецкі пасол Швэдзька — абураны й перапалоханы — назваў дэманстрантаў „правакатарамі" й „ваеннымі злачынцамі" й дамагаўся забараніць дэманстрацыю. Але канадыйскі міністар Пол Мартын адказаў яму, што канадыйскія грамадзяне маюць права выказваць свае думкі й пагляды, абы толькі не рабілі шкоды.

У той жа вечар адбылася дэманстрацыя й у Вініпэгу, дзе каля помніка Тараса Шаўчэнкі сабралася некалькі сот Украінцаў, Беларусаў, Славакаў, Эстонцаў, Латышоў, Летувісаў і Вугорцаў. Пасьля процібальшавіцкіх прамоваў дэманстранты з транспарантамі й сьцягамі ськіваліся да помніка няведамаму жаўнеру.

# БАЦЬКІ, ДБАЙЦЕ ПРА СВАІХ ДЗЯЦЕЙ!

Дзеці — наш найвялікшы скарб, бо пасьля нас яны будуць прадаўжэньнем нас. Мы хочам, каб яны былі лепшыя за нас, больш асьвечаныя, разумнейшыя й шчасьлівейшыя. Мы хочам, каб яны менш цярпелі, чымся мы, каб іх жыцьцё было лягчэйшае, як нашае.

Мы хочам, каб нашы дзеці перанялі ад нас усё, што ёсьць найлепшае ў нас саміх: чэснасьць, справядлівасьць, любоў да праўды, свабоды, да ўсяго прыгожага й узвышанага, да Бога, да свайго народу, да сваёй старой бацькаўшчыны й яе культуры. Дзеля гэтага мы стараемся самі быць добрым прыкладам для дзяцей, каб ад нас яны шмат чаго навучыліся, ды пасылаем іх на навуку ў школы, каб там яны навучыліся больш як тое, што мы ім можам даць, і падрыхтаваліся да самастойнага жыцьця.

Вырваўшыся з камуністычнага пекла, мы пачуліся шчасьлівымі, што апынуліся ў новай вольнай дэмакратычнай краіне — Канадзе ці Амэрыцы, дзе знайшлі дастатняе жыцьцё, свабоду — вялікія магчымасьці для сябе й для сваіх дзяцей. Самі мы кінуліся ў работу, якую знайшлі й, працуючы, пачалі будаваць свой дабрабыт. А дзяцей выправілі ў школы, у якіх няма ані камунізму, ані бязбожніцтва, ані клясавай нянавісьці, каб яны здабылі сабе навуку й спэцыяльнасьць.

З такімі перакананьнямі мы былі пэўныя за свой лёс і лёс сваіх дзяцей. Дзеля хутчэйшага павялічэньня дабрабыту да працы пайшоў ня толькі бацька, але й матка. Усё, здавалася-б, ішло гладка: бацькі, хоць праводзілі з сабой і дзяцьмі толькі вечар і ноч, а часамі й радзей бачыліся, калі прыпадалі розныя шыхты працы, — на вікэнд прыносілі падвойны заробак, з часам сталі на ногі матар'яльна, купілі дом, мэблі й усё патрэбнае ў хаце, самаход і навет грошы завяліся ў банку.

А дзеці? А дзеці таксама давалі сабе рады, зь неабходнасьці яны самі навучыліся глядзець за сабой: і зь ядой, і з навукай, і з гульнямі й таварыствам. Іх уцягнула ў свой вір жыцьця школа, мясцовае сяброўства, вуліца, а ў веку падросткаў— спорт, танцы, розныя сходкі й . . . ранткі (дэйтс). Усё гэта, зразумела, паза домам, без кантролю бацькоў.

І вымогі для дзяцей былі невялікія: каб была ежа ў фрыджы, вопратка, час ад часу падаркі, як на Каляды, або з прычыны промошн у школе ды „бэрздэй парты" дома. Пра пасьпех у навуцы рэдка калі прыходзілася клапаціцца, бо нашы дзеці, звычайна, вучацца добра. А на сваю родную мову, сваю культуру й наагул беларушчыну — навет калі ў бацькоў і была якаясь ахвота штось зрабіць у гэтым напрамку, ня было ані часу, ані адпаведных абставінаў: бацькі замала бачыліся зь дзяцьмі, а калі й бачыліся, дык былі перамучанымі, ды яшчэ мусілі займацца гаспадаркай. Ня было часу, а то й ахвоты й на рэлігійна-маральнае й грамадзкае ўзгадаваньне ў сваім родным духу. Усё ўзгадаваньне было здадзена на школу, якая ніколі ня можа абняць усяго ўзгадаваньня, тым больш іншая па духу й арганізацыі, як свая родная. Беларускія суботнія школкі, калі дзе і ёсьць, ахопліваюць вельмі малы працэнт нашых дзяцей і маюць замала часу, каб запоўніць праблемы нармальных мясцовых школ. Дый самі бацькі ў большыні выпадкаў мала, а то й зусім не ўдзяляліся беларускаму рэлігійнаму й грамадзкаму жыцьцю й дзяцей ня ўцягвалі ў яго. І на гэта шкада было грошай і часу.

Так і йшло яно жыцьцё блізка 20 год. Матар'яльна ўмацаваліся, ня было ўжо ніякіх даўгоў і моргайджаў, ашчаднасьці ў банку расьлі, але хацелася мець іх яшчэ больш. Тым часам дзеці павырасталі, паканчалі школы, пачалі працаваць, пажаніліся некаторыя, павыходзілі замуж. Той-сёй пайшоў на вышэйшую навуку. Здаецца ўсё як найлепш. Што-ж аказалася?

Аказалася, што бацькі й дзеці — гэта два розныя сьветы — часта навет чужыя адзін аднаму. Паміж імі няма аднэй мовы й духовага зразуменьня. Бацькі не навучылі дзяцей пабеларуску, дык найчасьцей яны гавораць толькі паангельску й згаварыцца зь імі цяжка. Тое, што ў большыні выпадкаў самі бацькі мала, а то й зусім не ўцягнуліся ў беларускае царкоўнае жыцьцё, а яшчэ менш у грамадзкае — і дзяцей не ўцягнулі, ды што мала хто з дарастаючых належыць да арганізацыі беларускае моладзі — дало прыкрыя вынікі: тыя адцятыя і ад беларускай мовы, і ад беларускага жыцьця чуюцца чужымі для духовага сьвету бацькоў і для беларускаса асяродзьдзя. У новым-жа — мясцовым канадыйскім ці амэрыканскім асяродзьдзі — яны таксама ня чуюцца сваімі, бо, папершае, псыхалёгія й мэнтальнасьць (умысловасьць) у іх іншая, як у англасаксонаў, падругое, доўга йшчэ будзе цягнуцца за імі з-заду мянушка „ДП", якая сьцягвае іх на ніжэйшую ступень у англасаксонскім асяродзьдзі. Яны вырваны із свайго беларускага асяродзьдзя, але чуюцца пасынкамі ў новым асяродзьдзі. Гэта робіць іх няпэўнымі сябе, няпоўнавартаснымі, зьбітымі з панталыку, паніжанымі й часта нешчасьлівымі, што можа спрычыняцца й да духовага заламаньня, і да розных збачэньняў.

Гэта трагэдыя й для бацькоў, і для дзяцей, і для беларускага грамадзтва. І вінаваты ў гэтым найбольш самі бацькі, што, пагнаўшыся за матар'яльным дабрабытам, пазашываліся ў норы, адсунуліся ад сваёй роднай беларускай грамады, страцілі лучнасьць з родным карэньнем, на якім узрасьлі. Занядбалі роднае ўзгадаваньне дзяцей, адарвалі і іх ад гэтага роднага карэньня: ад роднай мовы, ад родных традыцыяў, духу, культуры. Пазбавілі іх грунту, на якім расьце й разьвіваецца чалавек. А грунт гэты не абышто, ён творыцца пакаленьнямі й усосваецца з матчыным малаком. А новы грунт адразу ня прысвоіш, на гэта таксама трэба пакаленьні. Вось таму й трагэдыя адчужэньня з аднаго боку паміж дзяцьмі й бацькамі з розным асяродзьдзем, а, з другога боку, трагэдыя няпоўнавартаснасьці й адчужаньня дзяцей у новым асяродзьдзі.

Трагэдыя можа быць яшчэ большай, яшчэ горшай. Калісь мы былі пэўныя, што ў мясцовых школах няма камунізму, і так яно было. Але цяпер шмат што зьмянілася. Сярод амэрыканскай і канадыйскай моладзі зьявіліся розныя „бітнікі", „гіпіс", „піснікі", й „ветнікі", а між імі й камуністыя. Камуністыя пранікнулі ў васяродзьдзі студэнтаў унівэрсытэтаў, навет у „гай скул" (сярэднія школы), яны ўцягваюць у свае камуністычныя дэманстрацыі студэнтаў і вучняў. Якая зарука, што нашыя дзеці не падпадуць пад іх уплывы, што ня стануцца камуністымі?

Элемэнт няпэўны сябе, бяз моцнага ўзгадаваўчага грунту, незадаволены сваім станам — найбольш хісткі й падатны на ўсякія эксцэсы, скрайнасьці, а сярод нашага маладога пакаленьня такі элемэнт ёсьць. Дык ня вылучана, што ў ім знойдуцца прыхільнікі камунізму. Вось тады й будзе завяршэньне трагэдыі: бацькі ўцяклі з камуністычнага пекла, а іх дзеці робяцца камуністымі!

Такія выпадкі зусім магчымыя й трэба паважна браць іх пад увагу й забясьпечвацца перад імі. Як? Адкажам словамі нашага слаўнага паэты Якуба Коласа: „Не адрывацца ад роднага карэньня!"

Калі нашы дзеці будуць узгадоўвацца ў сваім родным духу, калі яны разам з бацькамі будуць трымацца сваёй беларускай грамады, калі наша моладзь будзе належаць да арганізацыі беларускай моладзі й, як і бацькі, будзе дзейнай у беларускім жыцьці — яна ня будзе чуцца адкінутай, горшай, прыніжанай, і ніякі камунізм пагражаць ёй ня будзе.

А ў канадыйскім ці амэрыканскім грамадзтве наша моладзь праз гэта ня толькі нічога ня страціць, але навет зышча, бо будзе мець пэўнасьць сябе, пэўнасьць прыналежнасьці да свае грамады і як Канадыйцы ці Амэрыканцы беларускага паходжаньня будзе мець куды большую пашану й прызнаньне ў англасасаў, чымся нешта бястварае, хісткае — нейкае няведама што. І тады, калі пойдзе дэманстраваць — дык не з камуністымі, а супраць іх.

**Ж.**

# ПАТРЫЯРХ АТЭНАГОР I. І ПАПА ПАВАЛ VI.

„Торонто Дэйлі Стар" за 26 кастрычніка зьмясьціла здымку абоймаў канстантынопольскага патрыярха Атэнагора I і рымскага папы Паўла VI. Пад здымкай зусім кароценькая (як на вялікую падзею) зацемка пад загалоўкам „Грэцкі Патрыярх і Папа абменьваюцца пацалункам міру". У той час у Рыме адбывалася паседжаньне Ватыканскага Сыноду (каля 200 япіскапаў) пад старшынствам папы. У прысутнасьці япіскапаў і 80 кардыналаў, пры ўваходзе ў сабор (базыліку) Сьв. Пятра ў Ватыкане пад гук званоў адбылася сустрэча двух правадыроў-герархаў Праваслаўнае й Рымска-Каталіцкае Царкваў.

Для звычайнага чалавека, што не сачыў за царкоўнымі падзеямі, паўстае пытаньне: ці запраўды наступіла паяднаньне дзьвюх Царкваў?

Гэта ёсьць ня першае ўжо спатканьне двух герархаў, але трэйцяе з чаргі. Першае спатканьне Патрыярха й Папы было напачатку студзеня 1964 году. Папа Павал тады наведваў Сьв. Зямлю, Ерузаліму і іншыя месцы. Патрыярх выявіў ахвоту спаткацца з Папам. Слаўны грэцкі купец Онназіс аплаціў патрыярху Атэнагору I падарожжа самалётам з Канстантынопалю ў Ерузаліму. Першая сустрэча 4 студзеня 1964 г. двух Першаярархаў у Сьв. Зямлі была зьдзіўленьнем для рэлігійнага сьвету, паколькі прыгатаўленьні да яе ня былі публічна абвешчаныя. Дабрадушнасьць Рымскага папы Івана 23 пусьціла першыя маленькія расткі. Вестка аб спатканьні Атэнагора з Паўлам маланкай абляцела сьвет, і хоць яна была неспадзяванай, была радаснай для рэлігійнага сьвету, гэтак Рымска-Каталіцкай, як і Праваслаўнай Царквы. Расейскія праваслаўныя цэрквы, Маскоўская Патрыярхія й Зарубежная (анастасіяўцы) аднесьліся з упярэджаньнем да гэтае навіны.

Другая сустрэча Рымскага папы й Канстантынопальскага патрыярха была меншай урачыстасьцяй, не дзеля меншае важнасьці, а таму, што яна адбылася ў варожай хрысьціянству мусульманскай дзяржаве Турэччыне ў Канстантынопалі. У суботу 15 ліпеня сёлета Ватыкан падаў да ведама, што папа Павал паедзе ў Турэччыну й там спаткацца з патрыярхам Атэнагорам. Дзесяць дзён пазьней, 25 ліпеня Павал прыляцеў самалётам у Канстантынопаль і меў гутарку з Атэнагорам у справе будучыні важных хрысьціянскіх сьвятых месцаў — Ерузалімы й ваколіц. Самае спатканьне адбылося ў няспрыяльных абставінах, дзеля мусульманскае варожасьці да хрысьціянства, ды не абазнаньня ў рэлігійных справах журналістыя падалі ня зусім ясную вестку аб супольнай малітве папы Паўла з патрыярхам Атэнагорам у патрыяршым Саборы. Дзеля няяснасьці навінаў спачатку выглядала, што два Першагерархі служылі супольна Сьв. Літургію ў саборы Сьв. Юрага. Гэту думку падтрымоўвала й тое, што папа Павал VI абвесьціў Рымска-Каталіцкую Царкву й Праваслаўную сёстрамі. А яшчэ ў мінулым годзе Канстантынопальскі патрыярх Атэнагор I загадаў свайму духавенству ўспамінаць рымскага папу Паўла VI за Сьв. Літургіяй з тытулам „Патрыярх Захаду й Першы Патрыярх", уважаючы яго, як першага між роўнымі ў праваслаўным разуменьні.

Супольная камісія рымска-каталіцкіх і праваслаўных тэалёгаў, што займаецца параўнаньнем догматаў абедзьвюх Цэркваў, на сваім першым афіцыяльным паседжаньні пастанавіла, „што вернікам падзеленых цэркваў цяпер яшчэ не дазволена супольнае Сьв. Прычасьце ў ніякіх абставінах". А Канстантынопальскі патрыярх Атэнагор выдаў пасланьне да свайго духавенства, каб яно не сьпяшалася служыць Сьв. Літургію зь іншавернікамі, паколькі яшчэ не наступіла паяднаньне.

Вышэй паданыя факты высьняюць, што ніякага літургічнага суслужэньня Патрыярха з Папам ня было. Зь весткі апошняга спатканьня Канстантынопальскага патрыярха Атэнагора I з Рымскім папам Паўлам VI, якое адбылося 26 кастрычніка ў Ватыкане, было ясна ведама, што літургічнага суслужэньня ня было, а была толькі супольная Малітва абодвых.

Ці дасягнасьць Рымскага папы Паўла VI і патрыярха Атэнагора I прывядзе дзьве Цэрквы да літургічнага паяднаньня, пакажа будучыня. Зусім магчыма да таго моманту мы не дажывём. Між цэрквамі Рымска-Каталіцкай і Праваслаўнай ёсьць вялікая разьбежнасьць. Ёсьць шмат разыходжаньняў, а найважнейшае зь іх: 1) Папскі Прымат, 2) Філіокве (паходжаньне Сьв. Духа і ад Сына), 3) Зачацьце Прасьвятой Дзевы Марыі. Ёсьць выключаным, навет думаць, што Праваслаўная Царква пагодзіцца на Папскі Прымат. Таксама няма надзеі, каб Рымская Царква вярнулася да праваслаўнае навукі і адмовілася ад Папскага Прымату. Аднак, паміма ўсіх нашых меркаваньняў, із справядлівасьці трэба сьцьвердзіць, што два Першагерархі, Канстантынопальскі патрыярх Атэнагор I і Рымскі папа Павал VI застануцца вялікімі асобамі ў царкоўнай гісторыі нашага часу.

**М. Грыбок**

---

З глыбокім сумам паведамляем, што 2 лістапада 1967 году перадчасна й неспадзявана адыйшла на вечны супачынак

Сьвятой Памяці

**НЭЛЯ ЛІПКОЎСКАЯ з дому НАВІЦКАЯ.**

Памерлая пражыла 34 гады. Вандруючы із сваімі бацькамі — добра ведамымі спадарствам Навіцкімі — яна заўсёды брала актыўны ўдзел у беларускім жыцьці. Нябожчыца асіраціла 4-охгадовага сына, мужа й старэнькіх бацькоў.

Няхай-жа Ёй будзе лёгкай Канадыйская зямелька!

**Сябры**

---

Канадыйская Рэдакцыя „Беларуса" лучыцца ў суме з Мужам і Бацькамі С. П. НЭЛІ ЛІПКОЎСКАЙ з дому НАВІЦКАЙ з прычыны яе перадчаснай сьмерці й выказвае Ім свае найглыбейшыя спачуваньні.

# ПАМЯЦІ НЭЛІ ЛІПКОЎСКАЙ - НАВІЦКАЙ

Сьвятой памяці Нэля Ліпкоўская-(Навіцкая) ў цьвеце год 34-ох адыйшла на вечны супакой 2 лістапада 1967 г. пасьля доўгай і цяжкай хваробы.

Нэлі было яшчэ 10 год, калі яна разам з бацькамі вымушаная была вайной пакінуць Беларусь, каб апынуцца аж у Нямеччыне. Калі вайна скончылася, Навіцкая пасялілася ў беларускім ДП-лягеры ў Ватэнштэце, у ангельскай зоне Нямеччыны. Тут Нэля закончыла пачатковую беларускую школу дзядзькі Язэпа Гладкага, а пазьней вучылася ў Беларускай Гімназіі імя Максіма Багдановіча. Належала Нэля й да беларускага скаўтынгу — была малодшай скаўткай, „Васільком", як называлася іхная дружына.

Ад прыроды інтэлігентная дый абдараваная добрым слухам і голасам, як і здольнасьцямі да танцаў, Нэля была ня толькі добрай вучаніцай, але й энтузіястычнай удзельніцай усякай мастацкай, ці то школьнай, ці скаўцкай, самадзейнасьці.

З Ватэнштэту сям'я Навіцкіх эміґравала ў Францыю, а пасьля ў Канаду — у Таронта. І тут у жыцьцярадаснай і энэргічнай Нэлі хапала часу на ўсё. Яна памагала бацьком зарабляць на жыцьцё. Яна закончыла курсы сакратаркі, пасьля якіх, свабодна ўладаючы ня толькі ангельскай мовай, але нямецкай і француской, хутка ўладзілася на працу ў вялікай фірме ці замежнага гандлю. Яна сыстэматычна наведвала лектарат беларусаведы на ўнівэрсытэце ў Таронта, які вёў д-р В. Жук-Грышкевіч.

Пры ўсім гэтым у яе хапала часу на вельмі дзейны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці. Пяяла ў царкоўным хоры й сьвецкім, актыўна ўдзельнічала й танцавальным гуртку дарослых і была незаменнай маёй памочніцай у працы над дзіцячай самадзейнасьцяй .

Калі праз пару год пасьля выхаду замуж, Нэля, з прычыны працы мужа-інжынера, на стала выехала з Таронта ў Вініпэг, не хапала яе вельмі беларускай тарантонскай калёніі ня толькі, як мілай і вясёлай сяброўкі, але й як грамадзкай працаўніцы.

Сьпі спакойна, дарагая Нэлячка! Хай пудзе лёгкай Табе канадзкая зямля!

У няўцешным горы чатырохгадоваму сыну Сашу, мужу Сэвіру й бацьком з найглыбейшым спачуваньнем

**В. Пашкевіч**
**і ўсе, хто знаў, любіў і цаніў Нэлю.**

# ПАДЗЯКА

На гэтым месцы складаем шчырую падзяку ўсім беларускім арганізацыям і асобам, якія прыслалі свае спачуваньні й кветкі ў сувязі з нашай незваротнай стратай — перадчаснай сьмерцяй нашае дачушкі Нэлі, якая адыйшла ад нас на вечны супачынак 2 лістапада 1967 году, пражыўшы толькі 34 гады, пакінуўшы сіратою 4-х гадовага сына й у глыбокім смутку мужа й нас старых бацькоў.

**Бацькі Памерлай**

# СКАРЫНУ — СЛАВА!

На ўрачыстым вечары дзеля адзначаньня 450-ых угодкаў беларускага друку й дзейнасьці яго пачынальніка Доктара Францішка Скарыны ў Менску 15 жніўня сёлета прысутнічаў вядомы чэскі вучоны-скарынавед расейскага паходжаньня праф. А. Фляроўскі, які прыехаў адмыслова ў Менск для ўдзелу ў сьвяткаваньні. А ў газэце „Літаратура й Мастацтва" за 18 жніўня праф. А. Фляроўскі зьмясьціў свой кароткі але вымоўны артыкул пад вышэйшым загалоўкам, які перадрукоўваем гэтта, як аўтарытэтны голас заходняга вучонага пра слаўнага сына беларускай зямлі.

***

У гэтыя дні, калі беларуская грамадзкасьць урачыста адзначае 450-годзьдзе свайго кнігадрукаваньня, усе з пашанай і ўдзячнасьцяй успамінаюць імя вялікага беларускага першадрукара й асьветніка Францішка Скарыны. Мне хочацца далучыць і свой голас прызнаньня і ўдзячнасьці. Гэта мне асабліва прыемна зрабіць, бо я прыехаў сюды, у Беларусь, із старажытнай Чэхіі, з залатой Прагі, дзе ў 1517 годзе, 450 гадоў таму назад, з-пад друкарскага станка Францішка Скарыны выйшла першая кніга на беларускай мове.

Дзейнасьць Скарыны — складаная й шматгранная. Яго жыцьцёвы шлях не быў простым. Адзін пералік яго інтарэсаў паказвае, які гэта быў адукаваны чалавек, наколькі рознабаковыя былі яго захапленьні й магчымасьці.

У гісторыю культуры й навукі Беларусі імя ягонае ўпісанае бесьсьмяротнымі літарамі. У Празе за два гады ён выдаў 23 кнігі „Біблії". Праца гэтая сапраўды тытанічная, асабліва, калі ўлічыць тыя неймаверныя цяжкасьці, зь якімі яму давялося сутыкнуцца. Тое, што ён зрабіў, вылучае яго ў шэрагі самых выдатных дзеячоў кніжнай справы. Вялізарны яго ўклад у развіцьцё ўсходнеэўрапэйскага кнігадрукаваньня ўвогуле. Па сіле розуму, па размаху яго асьветнай і кнігавыдавецкай дзейнасьці рэдка каго зь дзеячоў пачатку XVI стагодзьдзя можна параўнаць з Францішкам Скарынам.

Кнігадрукар і лекар, вучоны й асьветнік, Францішак Скарына паказаў вялікі прыклад самааддананага служэньня роднаму народу. Служыць „добраму паспалітаму" завяшчаў ён і нашчадкам. Думаецца, што нашае й наступнае пакаленьні будуць памятаць гэтыя ягоныя запаветы.

Вечная памяць справе Францішка Скарыны!

І — наперад у імя яго ідэялаў і ідэяў!

г. Менск **А. Фляроўскі**

## КАНАДЫЙЦЫ ПРА БАЛЬШАВІЦКАЕ СЬВЯТА

Ня гледзячы на натужную прапаганду чуць ня цэлы год і на Экспо 67, і ўсім камуністычным апаратам у Канадзе, і арганізацыямі камуністычных спадарожнікаў аб дасягненьнях Савецкага Саюзу за 50 год — канадыйская грамадзтва аднеслася абыякава да бальшавіцкага сьвяткаваньня, а дасягненьні ацаніла цьвяроза. „Гэта была не рэвалюцыя, а контррэвалюцыя, бо сапраўдная рэвалюцыя, якая скінула цара, разьбіла расейскую турму народаў ды прынесла ім свабоду, адбылася 7 месяцаў раней — у лютым 1917 году бяз удзелу бальшавікоў. Бальшавікі зьнішчылі гэтую рэвалюцыю, замест свабоды й дэмакратыі, яны ўвялі дыктатуру й тэрор, зьнішчылі дзесяткі мільёнаў інакш думаючых людзей. А што ёсьць дасягненьні ў прамысловасьці, астранаўтыцы, ды ваеннай тэхніцы — дык што-ж тут дзіўнага, дармавой працай мільёнаў нявольнікаў у лягерах можна было зрабіць усё гэта лёгка. І фараоны збудавалі піраміды, якія мы аглядаем з захапленьнем. Але ці варта гэта ўсё было ахвяр і цярпеньня тэй вялікай масы замучаных людзей? Дый якая пацеха з гэтых дасягненьняў, калі й сяньня ў Савецкім Саюзе няма ані свабоды для грамадзтва, ані дабрабыту".

Такія разважаньні можна пачуць вельмі часта сярод Канадыйцаў. А што канадзкае радыё й ТВ падавала прабег сьвяткаваньня ў Маскве, дык гэта быў ветлівы жэст за тыя мільёны тонаў пшаніцы, што Саветы купілі ў Канадзе. **В.**

# КАМУНІСТЫЯ РЫХТУЮЦЬ ВЕТНАМ У КАНАДЗЕ

„Падрыўная палітычная дзейнасьць камуністых у Канадзе добра зарганізаваная й робіцца чым далей, тым больш разнастайнай". Так кажа часапіс „Канэдыен Сін" (Канадзкая сцэна) № 738 з 10 лістапада сёлета ў артыкуле аб камуністычнай актыўнасьці, у якім заклікаецца грамадзтва да алертнасьці. Падаём далейшы зьмест гэтага артыкулу.

„Добра зарганізаваная прасавецкая камуністычная сетка ў Канадзе прытрымліваецца ленінскай стратэгіі ў разбудове камунізму „мірнымі сродкамі", як прапаганда й розныя маніпуляцыі, імкненьне да прызнаньня грамадзтвам іх яўнай дзейнасьці ды выкарыстоўваньне для сваіх мэтаў нармальнай розьніцы пагляда у нашай дэмакратычнай сыстэме. Спэцыфічнай камуністычнай дырэктывай ёсьць „будаваньне шырокага аб'яднанага фронту" пры помачы праніканьня ў іншыя палітычныя арганізацыі — навет далёкія ідэялягічна ад камуністых, ды стымуляваньне руху ўлева сярод нявыразных і хісткіх.

Свае заданьні камуністыя дасягаюць тым, што хапаюцца за контравэрсыйныя для Канадыйцаў пытаньні, як антыамэрыканізм, дыскрэдытаваньне абароннага высілку Захаду й асабліва націскаюць на выступленьне Канады з НАТО і НОРАД. Яны стараюцца ўзмоцніць супярэчнасьці паміж работнікамі й працадаўцамі, павялічваць забастовачную акцыю ды стымулююць нацыяналізацыю прамысловасьці.

Камуністычная партыя Квібэку заклікае бязупынна да самавызначэньня Квібэку з правам аддзяленьня, яна напэўна, разам із сваімі спадарожнікамі, выкарыстае гэту справу для сваіх мэтаў у часе правінцыяльных выбараў у Квібэку.

Друк работніцкіх вуніяў, што знаходзяцца пад камуністычным правадырствам, стала трымаецца камуністычнай лініі ўва ўсіх найважнейшых для работнікаў справах. Бальшыня сяброў гэтых вуніяў ня ёсьць камуністыя, але яны выстаўлены на сталы ўплыў камуністычнай прапаганды праз друк і іншыя спосабы. Апанаваны камуністычны Юнайтэд Фішэрмэн энд Айлянд Уоркэрс мае цяпер 5 аддзелаў у Новай Шкоцыі. Базуючыся на заходнім узьбярэжжы, камуністыя кінуліся ў гэтым годзе на арганізацыйны высілак у правінцыях над Атлянтыкам.

Саюз Канадзкіх Студэнтаў, ня гледзячы на сільную апазыцыю сваіх сяброў, пастанавіў старацца аб сяброўства ў Інтэрнашнал Юньён оф Студэнтс (ІЮС) — Інтэрнацыянальным Студэнцкім Саюзе. Гэта выклікала ў грамадзтве зразумелую трывогу, бо, як перасьцерагала адна публікацыя ў 1962 годзе, ІЮС, як і яе блізкі саюзьнік Ворлд Фэдэрэйшн оф Дэмократык Ютс (ВФДЮ) — Сусьветная Фэдэрацыя Дэмакратычнай Моладзі „насьледуе кажны зрух маскоўскай партыйнай лініі й больш зацікаўлена ў пашыраньні савецкай прапаганды, чымся сапраўднымі студэнцкімі справамі". Што ІЮС ёсьць палітычнай прыладай камунізму, відаць і з таго, што ён браў удзел у 1966 г. у Канфэрэнцыі Трох Кантынэнтаў ў Гаване (сталіца Кубы) ды іншай зьвязанай зь ёю дзейнасьці.

**Найбольшай-жа падзеяй у Канадзе трэба лічыць гуртаваньне розных груп і рухаў навакол „Кастрызму".** Адна з такіх групаў ёсьць Фэр Плей фор Кюба Коміты (ФПКК) — Камітэт Справядлівых Дачыненьняў да Кубы. Галоўным грунтам дзейнасьці гэтай групы ёсьць унівэрсытэты з прыбудоўкамі ў Гай Скул (сярэдніх школах). ФПКК, разам зь нядаўна заснаванай Тэрд Ворлд Інформэйшн Сэрвіс (ТВІС) — Інфармацыйная Служба Трэйцяга Сьвету, пашырае прасавы орган Цэнтральнага Камітэту Кампартыі Кубы, што друкуецца паангельску, пафранцуску й пагішпанску. Гэта публікацыя прапагуе партызанскую вайну.

У часе арганізацыі Інфармацыйнай Службы Трэйцяга Сьвету (ТВІС) на сходзе ў Таронта ў чырвені выразна выявілася аргнізацыйная сетка Трох Кантынэнтаў. Арганізацыя ТВІС адбылася паводля ўзору Фэр Плей фор Кюба Коміты. Абедзьве арганізацыі займаюцца прапагандай партызанскай вайны, таксама, як і „Торонто Кампэйн фор Піс энд Дызармамэнт (ТКПД, — Тарантонская Акцыя за Мір і Разбраеньне). Не дарма-ж адзін камуністычны партыйны тэарэтык нядаўна выясьніў, што „справа міру набрала цяпер новага рэвалюцыйнага зьместу". Уся гэтая дзейнасьць скіраваная на тое, каб прызвычаіць Канадыйцаў, асабліва моладзь, да ідэяў і спосабаў партызанскай вайны.

Якія-ж пэрспэктывы маюць усе рухі, пра якія тут мова? Лік людзей замешаных у гэтых рухах параўнальна невялікі. Але, на вялікі жаль, існуе па ўсёй Канадзе гатовая ўжо сетка розных г. зв. групаў „за мір", якія, калі пойдуць па шляху „Тарантанскай Акцыі за Мір і Раззбраеньне", стануцца магутнай прыладай распаўсюджваньня камуністычных ідэяў аб партызанскай вайне. Да гэтага трэба дадаць камуністычныя кнігарні й іх прыбудоўкі, што пашыраюць камуністычныя кнігі, брашуры й артыкулы аб партызанскай вайне.

З другога боку прасавецкая сетка, якая таксама мае сваіх сяброў, паўтыканых у розных групах „за мір", прапануе „мірны шлях да камунізму", які ў цяперашніх абставінах, на думку камуністых прасавецкіх, зьяўляецца найкарысьнейшым. Але яны цьвердзяць, што гэта ня выключае іхнага права на ўжыцьцё збройнай сілы, калі сама сытуацыя будзе вымагаць гэтага. Адна зь нядаўных камуністычных публікацыяў асьветчыла: „Рашаючым фактарам у кажнай сытуацыі ёсьць сіла арганізаваная на сталай аснове й падрыхтаваная загадзя да змаганьня, гатовая выступіць у кажную хвіліну, калі паўстане спрыяльная сытуацыя".

Зусім лягічна, што камуністыя не пагрэбуюць арганізацыяй ваяўнічай мяншыні, абазнанай з партызанскай тактыкай. Незалежна ад гэтага, яны пастараюцца папхнуць шмат маладых Канадыйцаў пад уплывы тых ідэяў, якія ўзбудзяць у іх, прынамся ў больш нявіннай форме, цывільную непаслухмянасьць (канадыйскім уладам).

Калі-б староньнікі партызанскай вайны выклікалі-б сваёй дзейнасьцяй публічнае зацікаўленьне й трывогу, чым вывялі-б грамадзтва з апатыі — так карыснай для поступу камунізму „мірным шляхам" — тады пасьлядоўнікі Масквы стрымлівалі-б (праўдападобна) сваіх ваяўнічых братоў ад рызыкоўных крокаў".

Такім супакойваючым прыпушчэньнем заканчываецца артыкул. Мы аднак, што добра знаем ня толькі бальшавіцкую тактыку, але й безагляднасьць камуністых у дасягненьні сваіх мэтаў — скажам адкрыта: Пара зірнуць цьвяроза на камуністычнаю небясьпеку! Пара пачаць змаганьне зь ёю!

Мы мусім быць удзячныя „Канэдыен Сін", што яна адважылася сьмела й адкрыта прадставіць сапраўдны твар камуністычнай дзейнасьці, завуаляванай пад рознымі хітрымі назовамі. Артыкул гэты тым больш важны, што вялікая й багатая англамоўная прэса Канады маўчыць аб падрыўной дзейнасьці камуністых, ня хочыць бачыць камуністычнай небясьпекі й часта-густа памагае камуністычнай прапагандзе. **В.**

# ЮРАСЬ СЬВІРКА



Нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Маргавіца Глыбоцкага раёну. Скончыў філялягічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Аўтар зборнікаў вершаў: „Шэпчуцца ліўні" (1960) і „Вечнасьць" (1963). Падрыхтаваў да друку новы зборнік вершаў „Баравіна".

Юрась Сьвірка — адзін з больш здольных маладых паэтаў, ён усьцяж на дарозе штораз новых паэтычных пошукаў і ў гэтых сваіх шуканьнях шпаркімі крокамі йдзе наперад. Галоўнымі тэмамі ягоных вершаў — прыпаміны трагэдыі мінулае вайны, узвышанае захапленьне хараством роднае прыроды, пачуцьцё каханьня. У сваім услаўленьні роднае прыроды й адчуваньні духовага зрадненьня зь ёю, зь лесам, паэта пасярэдня выказвае й сваё патрыятычныя пачуцьці. У некаторых вершах ягоны патрыятызм выступае й беспасярэдня й тады перарастае ў нацыянальную праблему.

## ДОМ РОДНЫ

*Ёсьць у кожнага свой*
*Незабыўны, абжыты куток,*
*Дзе ніколі ня страшны*
*Ніякія сьпёкі і сьцюжы;*
*Дзе з калодзежа возьмеш*
*Гаючай вадзіцы глыток —*
*І адчуеш сябе*
*Маладым, і шчасьлівым, і дужым.*

*Кожны помніць свой ганак,*
*Пад ім наматана клубкамі дарог*
*І прыціснута камнем,*
*Што некалі трушчыў зярняты.*
*І калі ты аслаб,*
*І калі ты ў дарозе зьнямог,*
*То вяртайся на гэты парог —*
*Тут для рук тваіх*
*Будзе спачын і занятак.*

*Зноў я дома жыву . . .*
*Родны двор, родны дом!*
*Як я рад, што сюды*
*Прывяла мяне сьцежка прамая.*
*Бацькаў двор, для мяне ты —*
*Аэрадром,*
*Што ў любое надвор'е прымае.*

(„Літаратура і Мастацтва", 5. I. 1965)

***

*Лес мой, бог мой!*
*Мы разам з табою калелі.*
*Пашчапаны, паранены ты*
*Той апошняй вайной.*
*Ня віні-ж ты мяне,*
*Што ня стаў прад табой на калені.*
*Я стаю на ўвесь рост —*
*І ўсёроўна малы прад табой.*
*Я люблю тваё царства —*
*Адзінае царства свабоды,*
*Дзе прасторна і думкам і соснам —*
*Тваім жыхарам.*
*Я прыйшоў да цябе,*
*Каб адчуць тваёй сьвежасьці подых,*
*Я стаю на паляне,*
*Высокай і чыстай, як храм.*

*Яня здрадзіў ніколі*
*Ні соснам тваім, ні крыніцам,*
*Дык чаго-ж ты, мой лесе,*
*У зацятым маўчаньні застыў?*
*Мне здаецца,*
*Што ты кожнай хвояй і кожнай ігліцай*
*Лішні раз правяраеш*
*Запасы маёй дабраты.*
*Абступілі мяне*
*Задуменныя сосны радамі,*
*Акружаюць вянкамі ствалоў, —*
*Як мне любы такія вянкі!*
*Вы паверце мне, сосны:*
*Мне хочацца высіцца з вамі,*
*Пераплёўшы карэньне зь зямлёй,*
*Каб вяршалінай кратаць блакіт.*

(„Дзень паэзіі' 1966)

## БАРАВІКОВАЕ

*Апошнія нажыткі лесу —*
*Грыбы,*
*Асеньнія грыбы.*
*І з драмняка ў драмняк я лезу,*
*Ад павуціньня твар рабы.*

*Нагамі верасы рассоўваю,*
*Ступаю мякка ля імхоў . . .*
*Налезла ў кошык верасовых —*
*Па кулаку — баравікоў . . .*

*Узьлесак цінькае сініцамі*
*Пад шоргат сьпелых верасоў.*
*Прапахлы верасам, жывіцаю,*
*Іду, нагрыблены, дамоў.*

*А лес змаўчаў,*
*Што я запозьнена*
*Прыйшоў наведаць драмянкі*
*І не сказаў,*
*Што ён — апошнія*
*Мне аддаваў баравікі.*

(„Літаратура і Мастацтва", 18 жніўня 1967)

## ХАЧУ ПРАЧНУЦЦА

*Хачу прачнуцца я праз сотні год,*
*Паслухаць траў і ветру шапаценьне.*
*Хачу я толькі на адно імгненьне*
*Паслухаць, як жывеш ты, мой народ.*

*Хачу паслухаць шум сівых бароў*
*І пахадзіць дарогаю лясною,*
*Спыніцца над Бярозаю-ракою ,*
*Паслухаць шоргат сініх чаратоў.*

*Калі пачую: мой жыве народ*
*(Па голасе пазнаю Беларусаў),*
*Тады спакойна на пагост вярнуся*
*І зноў засну — на сотні тысяч год.*

(„Полымя", № 8, 1967).

# СУСЬВЕТНЫ КАНГРЭС ВОЛЬНЫХ УКРАІНЦАЎ

16-19 лістапада сёлета адбыўся ў Нью Ёрку Першы Сусьветны Кангрэс Вольных Украінцаў з удзелам, апрача вялікае колькасьці гасьцей, звыш тысячы зарэгістраваных дэлегатаў з наступных краёў Вольнага Сьвету: Аўстрыі, Аўстраліі, Аргентыны, Вялікай Брытаніі, Бэльгіі, Бразыліі, Вэнэцуэлі, Італіі, Галяндыі, Люксэмбургу, Нямеччыны, Францыі, Чылі, Парагваю, Швайцарыі, Канады й ЗША. У Кангрэсе прынялі актыўны ўдзел найвышэйшыя герархі ўсіх украінскіх цэркваў: каталіцкай, праваслаўнай і пратэстанцкай.

Мэтай Кангрэсу было абмеркаваньне й вызначэньне шляхоў і спосабаў дзеля захаваньня нацыянальнай культурнай і моўнай спадчыны сярод двух міліёнаў Украінцаў у Вольным Сьвеце ды перадачы яе новым пакаленьням. Палітычнай мэтай Кангрэсу было запратэставаньне супраць паняволеньня й русыфікацыі украінскага народу на бацькаўшчыне расейскім бальшавізмам ды заманіфэставаньне ягонага духовага падтрыманьня вольнымі Украінцамі

Працоўная частка Кангрэсу адбывалася ў залі Гілтон-Гатэлю ў Нью Ёрку. А ў сыботу 18 лістапада адбылася вялікая маніфэстацыя ў найбольшай у Нью Ёрку залі Мэдысон Сквэр Гардэн з удзелам каля 10-ёх тысячаў Украінцаў, іншанацыянальных гасьцей і прыязных да Украінцаў прадстаўнікоў амэрыканскага грамадзтва.

Падчас Кангрэсу адбыліся ў Нью Ёрку дзьве масавыя публічныя дэманстрацыі Украінцаў. Адна зь іх, у якой прыняло ўдзел звыш дзьвюх тысячаў Украінцаў, адбылася 17 лістапада перад будынкам Задзіночаных Нацыяў. Другая дэманстрацыя з удзелам каля 10-ёх тысячаў чалавек адбылася 18 лістапада перад будынкам Савецкай Місіі ў ЗН. Гэтая дэманстрацыя мела бурлівы характар, што навет умяшалася амэрыканская паліцыя.

На Кангрэсе была створаная сталая ўстанова — Сусьветны Кангрэс Вольных Украінцаў ды былі выбраны ягоны Сакратарыят у складзе 15-ёх чалавек на чале з а. д-рам Васілём Кушніром з Канады.

Першы Сусьветны Кангрэс Вольных Украінцаў — падзея вялікага нацыянальнага значаньня. Палітычны сэнс гэтае падзеі мае асаблівую вымову ў сувязі з тым, што яна сталася супрацьпастаўленьнем тольківшто праведзенага на Украіне юбілею 50-ых угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, што прынесла ўкраінскаму народу няволю, ды, з другога боку, годным адзначэньнем 50-ых угодкаў стварэньня Украінскай Народнай Рэспублікі, што несла Украінцам свабоду.

# ВОЛЬГА ІПАТАВА



Нарадзілася ў 1945 годзе ў Міры Горадзенскай вобласьці. Выхоўвалася ў дзіцячым садзе, а цяперака вучыцца завочна на філялягічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Друкуецца ад колькіх год у літаратурных часапісах і газэтах і яшчэ ня мае ніводнага зборніка. сваіх вершаў.

У ейных вершах часта й моцна гучаць беларускія нацыянальныя матывы й гарачая любасьць да роднай Беларусі. Маладая паэтка мае няштодзенны паэтычны талент.

***

*Дзьве мовы сталі блізкімі мне змалку,*
*У сэрца упляліся назаўжды:*
*Гучэла калыханка — песьня маткі*
*Празрыстым звонам нёманскай вады,*
*Пявучым словам беларускіх вёсак...*
*А бацька — сын шырокае Акі*
*Мне даў — і я ў сваё прымаю вёсны —*
*Расійскай мовы гучныя радкі.*

*Ды толькі, Беларусь, твая дачка я,*
*Зярнятка я, а ты — мая ральля.*
*Якога-ж слова ад мне чакаеш*
*Ты, узрасьціўшая мяне зямля?*

*У яркіх красках, у пчаліным гудзе . . .*
*Я ведаю — праз гулкія вякі*
*Табе складаць на роднай мове будзе*
*Свой першы верш унук маёй дачкі . . .*

(„Дзень паэзіі" 1966)

## ПЕСЬНЯ

*Вечар чырвоным абрусам*
*На памытай падлозе гарыць.*
*„Ах, веюць над Беларусяй,*
*Веюць злыя вятры . . ."*

*Кладуцца словы гаротныя*
*На сэрца далёкай бядой,*
*Колькі майму народу,*
*Столькі і песьні гадоў.*

*Васількамі яе вышывалі*
*На слуцкія паясы.*
*Цяпер бабуля сьпявае*
*І гладзіць мае валасы.*

*І я за ёй паўтараю*
*Заклёны тых слоў старых:*
*„О хай над табой, мой краю,*
*Добрыя веюць вятры!"*

(„Беларусь", № 2, 1967)

## ВЁСЦЫ

*Я толькі кропля у тваіх крыніцах.*
*Перад табой заўжды сьхілюся ніц.*
*Мне і цяпер гарачы подых сьніцца*
*Тваіх духмяных, звонкіх касавіц.*

*Як бохан хлеба, ты дала мне мову, —*
*Яна, як золак росны, на губах,*
*Дзе кожны склад ,пявучы і вясновы,*
*Дажджом і медуніцаю прапах.*

*О, вёска! Хай сягоньня гарадзкая, —*
*Свайго дзяцінства успамін люблю:*
*Дзяўчынка хусткай журавом махае,*
*З нагамі ўлезшы ў цёплую ральлю . . .*

(„Маладосьць', № 2. 1967)

## СЬВЯТА ГЭРОЯЎ БЕЛАРУСІ Ў БРАДФАРДЗЕ

У нядзелю 12 лістапада сёлета адбылася ў Брадфардзе (Ангельшчына) ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 47-ым угодкам Слуцкага Паўстаньня. Сьвяткаваньне пачалося сьв. Літургіяй у капліцы сьв. Спаса, якую адслужыў а. Янка Абабурка, настаяцель БАПЦарквы ў Вялікай Брытаніі, і адмысловым Малебенам за тых, што аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні за Беларусь. Глыбока патрыятычнае казаньне а. Янкі Абабуркі прамовіла да сэрцаў усіх вернікаў.

Папаўдні-ж адбылася ўрачыстая акадэмія, якую адчыніў старшыня Аддзелу ЗБВБ сп. Янка Калбаса, які ў гарачых словах падчыркнуў важнасьць угодкаў. Ён зазначыў, што змаганьне з ворагам не канечне павінна быць із зброяй у руках, яно можа весьціся і ў ідэйнай роўніцы, прыкладам, у акцыі выкрываньня ўсякае ілжы й зьдзеку чужынцаў над нашым народам. У сувязі з гэтым ён заклікаў усіх Беларусаў падтрымаць нашую нацыянальную прэсу, каб ня страціць гэтае магчымасьці ідэйнага змаганьня з ворагам.

Сакратар Аддзелу ЗБВБ сп. С. Мак прачытаў добра апрацаваны рэфэрат пра Слуцкае паўстаньне. Хвілінай цішыні й песьняй „Сьпі пад курганам" закончылася афіцыйная частка акадэміі.

Пазьней прысутныя зрабілі падпіску й злажылі грашовыя ахвяры на газэту „Беларус" у суме звыш 18 ангельскіх фунтаў.

**Янка Крушына**

чыш жанчыну, ды яшчэ там, дзе не спадзяваеш, ды яшчэ адну. Ігнат зьбіраўся яе абмінуць, але пасьпеў адзначыць нейкую трывожную зграбнасьць яе фігуры, хады. І тут-жа пазнаў і зьлякаўся. Яна саступіла са сьцежкі і выставіла руку, перагароджваючы дарогу.

— Пачакай, Ігнат, — сказала яна патрабавальна. І калі Ігнат саскочыў і паставіў веласыпэд перад сабою, сказала з пакораю: — Я бачыла цябе. Усё думаю, можа ты мне што-небудзь скажаш.

— Я табе ўсё сказаў, Антоля. Мы ўсё перагаварылі з табою, навошта-ж зноў варочацца.

— Няўжо-ж ты такі бессардэчны?

— Не, Антоля, бэссардэчны быў ня я. І можа якраз табе пра гэта ня варта ўспамінаць.

Сьцежка ня так далёка зайшла яшчэ ў кустаўё, сям-там за прагалкамі прасьвечвала дарога. Відно было, як там прайшла жанчына ў белай хустцы з хатулём за плячыма, як з трэскам прамчаўся матацыкль, пусьціўшы за сабою сіні дымок. Каб ня быць у прасьвеліне, жанчына дакранулася да руля, як-бы просячы, каб Ігнат правёў веласыпэд далей.

— Я была перад табою вінавата і не баюся сазнацца, — сказала яна. — Дык хіба-ж ты ня бачыш, як я за гэта пакутаю?

— Цяпер нічога ўжо не паправіш, — сказаў Ігнат. — Усё ў нашым жыцьці зрабілася так, як трэба. Як ты хацела. У цябе ёсьць свая сям'я, муж, які даў табе і прытулак, і шчасьце.

— Ня было ў мяне шчасьця! — горача запярэчыла жанчына. — І мужа таго, што ты кажаш, няма. Я кінула яго, ты сам пра гэта ведаеш, і другі год хаджу за табою, як цень. Няўжо гэтага мала, каб ты не паверыў, што мне больш нічога ня трэба?

Яна памаўчала, супакойваючы дыханьне.

— Я зрабіла тады нядобра, гадка, — цішэй сказала яна, — але-ж гэта не з ахвоты ці радасьці — гора прытужыла мяне. Ну, няхай ня будзем гаварыць пра мяне, дык-жа я ратавала сына.

— Дзякую, Антоля, ты вельмі ўратавала яго. Аж да таго, што дала яму і чужое прозьвішча.

Сьцежка спускалася ў перасохлую ручаінку, на дне якой ляжала пруцьце, кінутае, мабыць, вясною, а цяпер утоптанае, пачарнелае. На камялёк пруціны, што вытыркаў над травою, села маленькая птушачка, весела цвыркнула, махнула два разы хвосьцікам і ўспырхнула, паляцела на куст. Ігнат пачакаў, каб жанчына прайшла наперад па гэтай сухой ручаінцы, не сазнаючыся, што яму яшчэ раз хочацца зірнуць на яе хаду, на паставу. Пасьля ручаіны яны пайшлі поруч, яна па сьцежцы, а ён збоку, вядучы веласыпэд па траве. Высокія сьцяблiны сьлёзак, вызвоньваючы, перабіралі па сьпіцах.

— А што я магла зрабіць? — прасіла жанчына. — Хіба табе лепш было-б, каб ён астаўся бяздомнікам, невукам ці вырас якім бандытам? Ты-ж ведаеш, што магло быць і са мною, і зь ім пасьля цябе... А ён-жа цяпер, дзякуй Богу, вучыцца ў тэхнікуме. Як маглі, мы засьцерагаліся, а ты кажаш — прытулак. Нішто сабе прытулак, калі табе сьвет ня міл.

Парасьнік мінаўся, сьцежка вывадзіла на палянку, за якой пачынаўся дубовы гай. Ужо адсюль відны былі высокія сівыя ствалы зь няроўнымі , карабатымі сукамі і густымі кронамі, засень ад якіх у глыбіні пераходзіла ад сініх да цёмных таноў. Ігнат прыпыніўся, папраўіў веласыпэд, як-бы зьбіраючыся паехаць.

— Я ведаю, гэта ўсё Яніна, — сказала жанчына. — Ух, як я ненавіджу яе гадаўку. Падсьцераглатакі. Усё жыцьцё яна падсьцерагала мяне.

— Яніны ты не чапай, — сказаў Ігнат. Ён зноў убачыў, як сёньня ішла яна да яго на градах з урабленымі ў зямлю рукамі, як глядзела з-пад высокіх броў, просячы ня бавіцца. — Яніны ты не чапай, — сказаў ён. — Яна перад табою сьвятая.

— Нішто сабе сьвятая — раскашуецца на маім горы. А колькі яна кляла цябе — ня ведаеш? Зь першага дня, як мы пажаніліся, яна стала маім ворагам. Уся кіпела ад злосьці. Нават зь сяла была зьехала, каб не настаўнічаць разам са мною, ты-ж памятаеш?

Ігнат памятаў. Памятаў і другое: шэры, золкі ранак на глухім тупіку станцыі, ланцуг вагонаў, загнаных на далёкі пуць. Бог ведае за што, дзеля якога сэнсу яму выпала на долю зазнаць, што такое людзкая няслава і этапныя шляхі ў невядомы сьвет. Маўклівая калона людзей і ціхая, як крадучыся, каманда канвою. Калі яго выклікалі, ён аддзяліўся ад натоўпу і ўжо каля вагону павярнуўся, каб апошні раз азірнуць тое, чым разьвітаўся можа навечна. З ранішняга сутоньня выступалі толькі цьмяныя абрысы вакзалу, сілуэт воданапорнай вежы ды ўгадваліся палоскі правадоў, усё адно як абверчаныя мохам. Ужо крануўшыся прыступак, на апошняй хвіліне, ён пасьпеў угледзець тры постаці, што стаялі наводдаль за пуцямі, аддзеленыя канвоем, з клумкамі ў руках. У вадной зь іх ён хацеў прызнаць Антолю і жахнуўся — стаяла Яніна, яна махнула яму рукою.

Першае, што яго пранізала, — гэта страх за Антолю: што зь ёю, чаму ня прыйшла сама? Стараючыся, каб не адціснулі з тамбура, ён лавіў Яніны жэсты (будзь спакойны, усё добра) і сам сіліўся перадаць толькі адно: што ён ня вінаваты. Яніна махнула галавою — паняла. Божачка, як гэта важна — яна-ж перакажа, — каб ведала хоць Антоля, што за ім няма ніякай віны.

А пасьля, калі іх распакавалі па вагонах і эшалон крануўся зь месца, начальнік этапу перадаў яму пакунак, сказаўшы, што ёсьць і запіска, але запіскі аддаць ён ня можа. Той клунак, які дзяржала ў руках Яніна. У пакунку былі валёнкі, цёплыя шкарпэткі і зімовая шапка. Ад усяго гэтага ішло цяпло Антоліных рук. Укрыўшыся ад усіх, ён заплакаў. Як, адкуль, якім спосабам яна магла дазнацца пра сёньняшні ранак, каб хоць Яніну прыслаць на гэтае сумнае разьвітаньне?

І яшчэ памятаў Ігнат: як туды, у далёкі сібірскі край, прыйшоў першы ліст. Ён таксама быў ад Яніны. Зь яго Ігнат дазнаўся, што Антолі ў яго больш няма, ня было ўжо і тады, калі ён плакаў над шкарпэткамі, бо ў іх была не Антоліна спагада. На другім-жа тыдні пасьля яго бяды яна выйшла нанова замуж.

— Яніны ты не чапай, — сказаў ён яшчэ раз.

— Гадаўка яна! Не магу! Век буду праклінаць яе.

Ігнат паставіў веласыпэд на сьцежку.

— Ідзі, Антоля, — сказаў ён. — Ты далёка адыйшла ўжо, ідзі.

— Куды я пайду? Навошта і куды я пайду? Як сьляпая, я магу хадзіць толькі за табою . . . Божа мой, чаго я нарабіла! Няўжо хоць гэтым я не замаліла перад табою ўсіх грахоў?

Яна стаяла перад ім, пакорліва расьціраючы ў руках сьцяблінку мятліцы. Пальцы ў яе дрыжалі, у вачох стаялі сухія сьлёзы, губы торгаліся ў горнасьці.

Каб ён не глядзеў на яе, яна адвярнулася, стаўшы зусім блізка плячыма. Яна была намнога ніжэй за яго. Зьверху ён бачыў яе каштанавыя валасы, пасмачку, што, выбіўшыся, хацела ўпасьці на лоб, адкрытае плячо. Прайшоўшы па выразу пляцьця, убачыў грудзі, разьдзеленыя цёмнаю лагчынкаю ў цесным станіку, і пачуў, як у скронях пачала шумець кроў . . .

Трэба было зь месца скрануць веласыпэд, але Антоля вельмі блізка стаяла пры ім. Пажмаканая сьцяблінка мятліцы ўпала на дол. Аднекуль у небе праплылі два буслы і пачалі кружыць над дубовым гаем . . .

1965 г. **Янка Скрыган**

**(„Анталёгія беларускага апавяданьня", т. I, 1967)**

# СЬВЯТОЙ ✝ ПАМЯЦІ
# АЛЯКСАНДАР МАХНОЎСКІ

19 кастрычніка 1967 г. адыйшоў ад нас на вечны супакой адзін зь лепшых і здольных дзеячоў беларускага нацыянальнага адраджэньня Дзьвіншчыны, настаўнік Аляксандар Махноўскі.

Ён нарадзіўся 24 верасьня 1902 году ў беларускай інтэлігенцкай сям'і ў Дзьвінску. Ягоны бацька Сьцяпан Махноўскі яшчэ ў царскія часы быў ведамым настаўнікам у Дзьвінскім павеце. У часе Першае сусьветнае вайны сям'я Махноўскіх была эвакуаваная ў глыб Расеі, у горад Курск. Там малады Аляксандар атрымаў сярэднюю асьвету.



Пасьля вайны Махноўскія вярнуліся ў Дзьвінск, дзе мелі сваю маёмасьць. Тут Аляксандар скончыў Беларускія настаўніцкія курсы і ў 1923 годзе атрымаў атэстат першага выпуску Дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі. Яшчэ будучы студэнтам настаўніцкіх курсаў і вучнем апошняе клясы гімназіі, Аляксандар Махноўскі шмат дапамог у арганізацыі гэтых навучальных установаў, прыцягнуўшы маладых дзьвінчукоў. Тады-ж быў тут зарганізаваны тэатр і беларускае таварыства „Беларуская Хата".

У восені 1923 году Аляксандар Махноўскі, разам із сваёй жонкай Антанінай, таксама настаўніцай, выехаў на працу ў беларускую вёску, заняўшы становішча кіраўніка Пустынскай 6-клясавай школы. Пазьней, аж да 1939 году ён працаваў у Прыдруйшчыне. У 1940-41 годзе ён займаў становішча кіраўніка няпоўнай сярэдняй школы ў Ілукшчыне.

Як настаўнік і грамадзкі працаўнік, Аляксандар Махноўскі карыстаўся агульнай пашанай. Ня толькі асьвету й нацыянальную сьвядомасьць ён стараўся прышчапіць вучням, але й шмат дапамагаў бяднейшым вучням матар'яльна, стварыўшы адмысловы фонд дапамогі. Ён-жа зьяўляўся прадстаўніком беларускага настаўніцтва ў Дзьвінскай павятовай управе.

Былі часы небясьпекі дзеля існаваньня беларускіх школаў, а таксама й пагрозы настаўнікам, асабліва ў часе палітычных зьменаў, як дыктатура латыскага прэзыдэнта Ульманіса, бальшавіцка - расейская акупацыя, Другая сусьветная вайна. Але Махноўскага ніхто ня змог запалохаць, ён на чале беларускай дэлегацыі бараніў беларускую грамаду.

У 1942-44 гг. Махноўскі займаў становішча інспэктара беларускіх школаў у Дзьвінскім, Люцынскім і Ілукштанскім паветах, значна пашырыўшы беларускую школьную сетку, а таксама скамплектаваўшы найвялікшы лік настаўнікаў.

Увосені 1944 г. Аляксандар Махноўскі із сям'ёй падаўся на Захад, а ў 1949 г. прыехаў у Задзіночаныя Штаты. Не зважаючы на стомленасьць і трагічную згубу адзінага сына пад Брэгенцам, ён адразу-ж далучыўся да беларускай грамады ў Амэрыцы гуртуючы прыбылых сюды землякоў. Ён не забываўся таксама й тых беларускіх сяброў, што засталіся ў Эўропе. Дапамагаў ім прыехаць сюды і, як мог, стараўся наладзіць ім тут прыпынак.

Напружаная фізычная праца й розныя клопаты зламалі яго, і на доўгі час ён мусіў адыйсьці ад грамады й грамадзкай працы. На заканчэньне свайго жыцьця ён перанёс дзьве цяжкія апэрацыі, праляжаўшы тры месяцы ў шпіталі. Напошку ён ня змог больш трымацца й пакінуў сваю жонку й беларускую грамаду назаўсёды.

У сонечны дзень кастрычніка ён адбыў апошняе падарожжа на беларускія могілкі ў Іст Брансьвіку. Тут яго ў вапошні раз сустрэла й праводзіла із сумнай песьняй „Сьпі пад курганам" вялікая беларуская грамада.

Хай будзе Яму вечная памяць!

**Пётр Мірановіч**

### ЗАМІЖ ВЯНКА НА МАГІЛУ

Не магу ня выказаць майго глыбокага суму з прычыны передчаснай сьмерці майго добрага сябры сьв. пам. Данілы Клінцэвіча, зь якім мне даводзілася разам ваяваць за волю Бацькаўшчыны ў часе мінулае вайны.

Даніла Клінцэвіч нарадзіўся 22 сьнежня 1905 году ў вёсцы Макуты Іўеўскага павету Горадзенскай вобласьці ў беларускай сялянскай сям'і. Яшчэ маладым юнаком перад вайной быў ён актыўным беларускім працаўніком. Падчас вайны быў увесь час добрым беларускім патрыётам і жаўнерам. Як капітан 13-га Беларускага Батальёну, ён асабліва рупіўся выхоўваць падначаленых яму жаўнераў у духу беларускага патрыятызму.

Апынуўшыся на эміграцыі, спачатку ў Заходняй Нямеччыне, а тады — у Задзіночаных Штатах, Даніла Клінцэвіч быў усёды актыўным у беларускім грамадзкім жыцьці. Калі-ж апошнім часам былі некаторыя памылкі ў дзейнасьці Данілы Клінцэвіча, дык, — я моцна перакананы, — ня з прычыны ягонае злой волі, а ў выніку розных непаразуменьняў. Найважнейшае тое, што Памерлы заўсёды моцна балеў за грамадзкія справы й стараўся заўсёды быць актыўным і карысным для беларускае справы, заслужыўшы гэтым на сьветлую памяць сярод жывых.

**Мікола Абрамчык**

**Нью Ёрк, у лістападзе 1967 г.**

## БЕЛАРУСЫ У ПАРЫЖЫ

Хоць беларускае грамадзкае жыцьцё ў Парыжы апошнім часам прыціхла, усё-ж тутэйшыя Беларусы час ад часу даюць знак аб сваім існаваньні. А прыціхла яно таму, што сучасны францускі рэжым, пайшоўшы на супрацоўніцтва з Масквою, ставіцца няпрыхільна да ўсякай антымаскоўскай дзейнасьці. Пасьля ведамай высылкі эмігрантаў із Савецкага Саюзу на Корсыку ў 1960 годзе ў сувязі з прыездам у Францыю Хрушчова, шмат хто перапахолаўся эвэнтуальнай наступнай высылкі ўжо „на родину" ды зашыўся ў спакойны куток. Некаторыя схаваліся й за францускае грамадзянства, хоць яно ані ня перашкаджае быць і надалей беларускім патрыётам.

Апораю, на якой базуецца сяньняшняя беларуская актыўнасьць у Парыжы, ёсьць архімандрыт Леў Гарошка, які прыяжджае ў Парыж рэгулярна раз у два месяцы ды наведвае мясцовых Беларусаў, а ў нядзелі, калі толькі служыцца літургія, пасьля яе звычайна адбываюцца спатканьні мясцовых Беларусаў.

У нядзелю 15 кастрычніка гэткае спатканьне мела шырэйшыя разьмеры. Пасьля заканчэньня Божае Службы прысутныя сабраліся ў залі Каталіцкай Місіі, дзе ўзаемна частаваліся складковым абедам. У часе гэтага абеду былі ўшанаваныя важнейшыя сёлетнія нацыянальныя ўгодкі: 900-ыя ўгодкі ад сьмерці Еўфрасіньні Полацкай, 450-ыя ўгодкі беларускага друку й выдавецкай дзейнасьці Францішка Скарыны, 47-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня ды 30-ыя ўгодкі сьвятарства архімандрыта Льва Гарошкі. Зь ініцыятывы сп. Міхася Наўмовіча, прысутныя злажылі значную суму грошай на выданьне прыгатаванай да друку кнігі а. Льва Гарошкі „Кветкі й церні жыцьця".

Юбіляр а. Леў Гарошка зрабіў кароткае паведамленьне пра дзейнасьць і значаньне сьв. Еўфрасіньні Полацкай і Францішка Скарыны, закончыўшы ўспамінамі пра Слуцкае Паўстаньне.

**Парыжанін**

# СКАРБ ПРАДСЛАВЫ

Дваццатыя гады бягучага стагодзьдзя былі асабліва цяжкімі для беларускай моладзі. Іхныя бацькі былі зьбяднелыя вайной і рэвалюцыяй, а край аваладаны чужынцамі, якія намагаліся даць для моладзі шмат, але толькі не для беларускай.

Не зважаючы, аднак, на матар'яльныя й палітычныя цяжкасьці, беларускія нацыянальныя дзеячы гэнага часу зь вялікімі натугамі здабывалі грошы й давалі стыпэндыі сваім студэнтам у Вільні. Навет зьбяднелае беларускае сялянства зьбірала па вёсках прыгаршчамі збожжа, каб памагчы вучням Беларускай Гімназіі ў Навагрудку.

А глянь-ма, што робіцца цяпер? У Задзіночаных Штатах і Канадзе сотні нашых людзей хваліцца мураванымі дамамі, цэлымі кварталамі ў Брукліне ды ашчаднасьцямі сама менш 15 тысячаў даляраў на кажную асобу сям'і, а колькі хто зь іх даў вучням, студэнтам, моладзі наагул?

Ёсьць у нас установы й згуртаваньні розных назоваў і кірункаў, але ці хоць у вадной зь іх у касавай кнізе запісана: выплачана на навуку студэнту?...

Спачатку казалі: Няма дзе зрабіць летнішча для дзяцей. З куплю Бэлейр-Менску адразу наладзілі гэтае летнішча, але толькі на пару тыдняў у летнім сэзоне. Мала хто з бацькоў мог заплаціць за сваіх дзяцей на летнішчы за цэлае лета. Бязьдзетныя й адзінокія нат не дадумаліся далажыцца. Людзі пагаварылі, і нічога ня было зроблена ўжо трэйцяе лета.

Заснаваньне Скарбу Прадславы, установы, што мае за заданьне вылучна памагаць моладзі, трэба горача вітаць і ўсім падтрымаць. Заснаваны ў дзень народнага сьвята Прадславы — сьв. Еўфрасіньні — Скарб Прадславы павінен стацца нашай агульнай беларускай народнай установай дзеля збору грошай на навуку нашае моладзі: каб кажнае беларускае дзіця здабыло магчымасьць лепш уладзіцца ў жыцьці, каб кажны здольны Беларус выбіўся як найвышэй для дабра свайго, сваіх бацькоў, свайго народу.

Зьбіраньне грошай павінна працягвацца цэлы год, а перадусім 5 чырвеня — у Дзень Прадславы.

Скарб Прадславы павінен імкнуцца даваць грошы на летнішча кажнаму беларускаму дзіцяці на працягу цэлага лета. Толькі нявыкананьне забавязаньня кіраўніцтва летнішча, каб апрача добрага паветра, ежы й памешканьня, вучань атрымаў некалькі гадзінаў беларускай асьветы ў тыдзень, можа быць абмежаваньнем дапамогі. Скарб Прадславы будзе даваць грошы на падручнікі, вопратку кажнаму беларускаму вучню ў бясплатных школах, а так-жа за школу ў платных каледжах і ўнівэрсытэтах.

Само даваньне грошай паасобнымі людзьмі на Скарб Прадславы — рэч пахвальная. Але яшчэ больш пахвальная помач у зьбіраньні гэтых грошай сярод іншых. Калі-б кажны зь Беларусаў даў, дык шмат хто зь ня Беларусаў далажыўся-б.

Ня менш важным — пашырэньне зразуменьня ідэі Скарбу Прадславы, як народнай установы з высокімі мэтамі. Гэта не багадзельня, але дапамога свайму народу, сваёй сям'і, сваім дзецям, самім сабе. Шырэньне інфармацыяў аб Скарбе Прадславы — справа як адзінак, гэтак і цэлых згуртаваньняў, установаў, часапісаў.

Трэба намагацца, каб кажны бацька ці матка складалі грошы на Скарб Прадславы ўжо цяпер, калі іхныя дзеці яшчэ ня шмат патрабуюць на навуку. Трэба падумаць даваць грошы на навуку сваім дзецям з магчымасьцяй адцягваньня іх ад падаткаў.

Трэба прыпомніць тым, што калісьці даставалі стыпэндыі, пазыкі, зьніжкі, каб цяперака зьвярнулі іх у Скарб Прадславы. Яны атрымлівалі грамадзкія грошы на сваю навуку, дык зусім справядліва, калі зьвернуць іх цяперака грамадзтву назад на навуку новым сыном свайго народу.

Найвыгадней і найпрактычней пакінуць Скарб Прадславы ўстановай, паўзалежнай адзінкай ад БАПЦ. Скарб задуманы, як вечная беларуская народная ўстанова. Дык ці-ж ня лепш, каб заставаўся ён пры вечнай установе — БАПЦ? Гэтак як нацыянальны Дар 25 Сакавіка знаходзіцца пры органах БНР.

**ВВВ**

## ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ
## ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ**

**І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**

*АБРАМЧЫКІ ГАННА И МІКОЛА*
*АНТОНІК СЫМОН*
*Д-р БАКУНОВІЧ УЛАДЗІМЕР ІЗЬ СЯМ'ЁЙ*
*БЕЛЕНІСЫ ЛЮДВІКА И АНТОН*
*Д-р ГРАБІНСКІ БАЛЕСЛАЎ*
*ГУТЫРЧЫКІ ЛІТВІНА И СЯРГЕЙ*
*ДАНІЛОВІЧЫ АЛЯКСАНДРА И БРАНІСЛАЎ*
*ДАНІЛЮКІ МАРЫЯ И БАРЫС*
*ЖЫЗЬНЕЎСКІЯ ГАННА, МІКОДЫМ І ДЗЕЦІ*
*Д-р ЖУК-ГРЫШКЕВІЧЫ РАІСА И ВІНЦУК*
*ЗАПРУДНІКІ ВОЛЬГА И ЯНКА*
*КУНЦЭВІЧ МІКАЛАЙ*
*КУРЫЛЫ АЛІНА И УЛАДЗІМЕР*
*МАРОЗЫ ІРЭНА И МІХАСЬ*
*МАХНАЧЫ ВАНДА И МІХАСЬ*
*МІЦКЕВІЧ АЛЯКСАНДАР*
*ПРУСКІ МІКОЛА*
*Д-р РАМУКІ ВЕРА, ВІТАЎТ І ДЗЕЦІ*
*Д-р САЖЫЧ ЯЗЭП ІЗЬ СЯМ'ЁЙ*
*СТАГАНОВІЧАЎ СЯМ'Я*
*Д-р СТАНКЕВІЧЫ ЗІНАІДА, СТАНІСЛАЎ І РАЯ*
*СТАНЯШЫК ЭЎФРЫЗЫНА*
*СТОМЫ НІНА И ВАСІЛЬ*
*СЬЛІЎКА УЛАДЗІМЕР*
*ТУЛЕЙКІ ВОЛЬГА И МІХАСЬ*
*ХАНЯЎКІ МАРЫЯ И ЧАСЛАЎ*
*ЧАРНЭЦКІЯ А. і Я.*
*ЧОРНЫЯ НІНА И ЯЗЭП*

**Заміж індывідуальных прывітаньняў усе вышэй успомненыя злажылі па 10 даляраў на Выдавецкі Фонд „Беларуса".**

## НА 450-ЫЯ УГОДКІ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку сьціпла, але зьмястоўна адзначыў 450-ыя ўгодкі беларускага друку адмысловым навуковым паседжаньнем, што адбылося ў суботу 11-га лістапада сёлета ў доме Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага.

У праграме паседжаньня былі два даклады: віцэ-старшыні Інстытуту праф. Антона Адамовіча пра пытаньне мавы Скарыных выданьняў і старшыні Інстытуту д-ра Вітаўта Тумаша пра перагляд фактаў жыцьцяпісу Доктара Скарыны ў сьвятле новых дакумэнтаў і дасьледваньняў.

Праф. А. Адамовіч у сваім дакладзе сьпярша зрэфэраваў пагляды дасюлешніх дасьледавальнікаў на мову Скарыны. Адныя зь іх, у тым ліку й аўтар першай грунтоўнай манаграфіі пра Скарыну з 1888 году П. Владзіміраў ды акадэмік Я. Карскі, уважалі мову Скарыны тагачаснай беларускай мовай із царкоўнаслаўянскімі элемэнтамі. Іншыя-ж уважалі гэтую мову царкоўнаславянскай зь беларускімі элемэнтамі.

Дакладчык абазначыў Скарынаву мову, як тагачасную беларускую літаратурную, а не народную мову, як мову кніжную, што складалася тады з элемэнтаў беларускіх і царкоўнаславянскіх.

Другі дакладчык паведаміў, што ў час, калі Владзіміраў пішучы сваю кнігу пра Скарыну 80 год таму, ведаў толькі 7 дакумэнтальных актаў з жыцьця Скарыны, у тым ліку 4 акты з Кракаўскага ўнівэрсытэту, дык сяньня ведамыя ўжо аж 47 такіх актаў, а некаторыя зь із упяршыню былі выяўленыя й навукова выкарыстаныя Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва. Абапіраючыся на гэтыя новыя акты й сьвежыя дасьледваньні, дакладчык папоўніў і ўдакладніў жыцьцяпіс Скарыны важнымі новымі фактамі. Пры гэтым была сьцьверджаная, здавалася-б, парадаксальная зьява, што БІНіМ значна больш зрабіў у навуковым дасьледваньні Скарыны й ягонае друкарскае й выдавецкае дзейнасьці, чымся Акадэмія навукаў БССР, якая распараджаецца ў сваёй навуковай дзейнасьці адпаведнымі дзяржаўнымі рэсурсамі.

У залі, дзе адбывалася паседжаньне, была наладжаная выстаўка фотакопіяў Скарынавых друкаў, некаторых з успомненых актаў ды некалькі навуковых працаў пра Скарыну й ягоную дзейнасьць. Гэтых апошніх на выстаўцы магло-б быць значна больш.